PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 20 (1983) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 15 МАЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

## Achtung! Achtung! Внимание! Внимание! Uważajta! Uważajta!

*Pling-pling! Tu stacja Hajnówka, pociąg z Białowieży do Bielska Podlaskiego wjedzie na tor przy peronie trzecim...*

У канцы красавіка гэтага года, калі справа ліквідацыі пасажырскага чыгуначнага руху на шляху Бельск—Белавежа пачала набываць грамадскую вядомасць, журналіст беларускай секцыі Радыё Беласток Юры Ляшчынскі лавіў афіцыйных прадстаўнікоў цэнтральнага кіраўніцтва ПКП. Запісаў ён дзве кур'ёзныя размовы па тэлефоне. У першай з іх намеснік дырэктара пасажырскага бюро ПКП, нейкі спадар Галабурда, заявіў, што ўзамен цягнікам на адрэзку Бельск—Белавежа будзе арганізаваны аўтобусны транспарт. Сказаў ён яшчэ, што ў выніку гэтай рэдукцыі ніхто з чыгуначнікаў не страціць працу. Другі афіцыйны прадстаўнік ПКП — прэсавы, як і належалася б у выпадку такой функцыі, у справе наогул не быў зарыентаваны. Сказаў толькі, што той першы прадстаўнік, пэўна, ніякім дырэктарам не з'яўляецца.

— Афіцыйнага паведамлення пра скасаванне пасажырскага руху на адрэзку Бельск—Белавежа, — сказаў намеснік кіраўніка вакзала Бельск-Падляшскі Аляксандр Сахарчук, — няма. Атрымалі мы ўжо аднак новы расклад цягнікоў, які пачне абавязваць ад 30 мая г.г. У ім цягнікоў у напрамку Белавежы няма. Выглядае, такім чынам, на тое, што апошнія цягнікі па гэтым шляху пракоцяцца з 28 на 29 мая 1994 года.

У напрамку Белавежы ездзяць з Бельска чатыры цягнікі (5.22, 8.00, 15.46, 18.53). Узамен ім ПКП намервае пусціць тры аўтобусы (3.45, 7.45, 15.45). Арыфметыка няўмольная.

— Адзін вагончык дрызіны, — кажа А. Сахарчук, — забірае 70 чалавек, а ў выніку дрызіна такая можа перавезці 140, бо складаецца з двух вагончыкаў. У пятніцы і суботы едзе ёю і за дзве сотні чалавек.



Якім чынам звычайны аўтобус забярэ такую колькасць пасажыраў і ці ў стане ён даехаць да кожнай станцыі (напрыклад Чарлёнка) — ахвотных адказаць няма.

— Без працы, — заўважае яшчэ А. Сахарчук, — фармальна ніхто не апынецца. Усе чыгуначнікі з прамежкавых станцый атрымаюць прапановы працы ў іншым месцы.

„Па-за пратаколам", аднак жа, недвухсэнсава намякае, што ў сапраўднасці з гэтымі прапановамі ўсяляк бывае. Чалавек часамі і сам можа адрачыся.

— Мы з'яўляемся ўсяго выканаўцамі ніжэйшай ступені, — дадае яшчэ А. Сахарчук наконт свайго статуса ў ПКП. — Ва ўсёй гэтай справе вырашэнне ідзе зверху. На жаль, мясцовыя ўлады не паявілі сябе рашуча ды не ўчынілі вэрхалу, які павінен быць, каб абараніць чыгунку ад ліквідацыі.

Калега па функцыі А. Сахарчука ў Гайнаўцы — Юры Яканюк падлічыў, што пад пагрозай страты працы апынецца больш за 20 чалавек.

— Слабы стан рэек, хуткасць 30 кіламетраў у гадзіну, брак грошай на рамонт, — заўважае намеснік кіраўніка гайнаўскага вакзала наконт прычын ліквідацыі. — У нас дзеля рамонту нічога не рабілася, бо было спадзяванне на дапамогу цэнтра. А тут, вось табе і на. Усе мы моцна ўсхваляваныя гэтай справай. Эколагі ў Белавежы крычаць, што трэба асфальт засыпаць жвірам, бо гэта некарысна для пушчы, а нам зачыняюць чыгунку. Цяпер жа ўсё ў Белавежу рухне на аўтамашынах. Вось і экалогія.

Людзі, запытаныя на пероне пра ліквідацыю чыгункі сказалі, што ідзе да знішчэння — давядзецца ў горад пехатою дабірацца, як да вайны бывала.

Брак грошай на інвестыцыі ды нерэнтабельнасць сталі ў наш час універсальным вытлумачэннем кожнай улады. Грошы, аднак жа, ёсць — пачуў я ў прыватных размовах з працаўнікамі чыгункі. Уся бяда ў тым, што накіроўваюцца яны не туды, дзе трэба. Нам важнейшае, пачуў я і такі голас, каб было па чым ехаць, а не абмен старых камп'ютэраў на новыя. Калі ідзе пра нерэнтабельнасць, сказала адна жанчына, то быў у нас аналітык з Варшавы, які дзён пару даследаваў стан чыгункі. Быў вельмі здзіўлены, што ПКП зачыняе гэты адрэзак.

Вытлумачэнні пакуль насоўваюцца два: прычынаю скасавання чыгункі Бельск—Белавежа з'яўляюцца або камерцыйныя інтарэсы цэнтра, або праводзіцца яна ў рамках дэкамунізацыі. Радавод жа белавежскай чыгункі сягае царскага часу.



*... Proszę zachować ostrożność i nie zbliżać się do krawędzi peronu. Pociąg wjeżdża po raz ostatni.*

**А. МАКСІМЮК**
**Фота А. Вярбіцкага**

## ВІНАВАТЫ КАПІТАЛІЗМ?

*У нядзелю 13 сакавіка ў перадачы Беластоцкага радыё „Пад знакам Пагоні"* **ВАЛЯНЦІНА ФРАНКОЎСКАЯ** *і* **НІНА САВІЦКАЯ** *з калектыву „Тыневічанкі" скардзіліся на войта Нараўскай гміны* **ЯНА ТАПАЛЯНСКАГА.** *Маўляў, той не ўпускае іх у пусты школьны будынак праводзіць рэпетыцыі ды не дае транспарту на беларускія культурныя мерапрыемствы.*

**Ян Тапалянскі:** — У Вялікіх Тыневічах два аб'екты, якія апынуліся ў распараджэнні гміны: святліца і школа. Святліцу будавала, з матэрыялаў мясцовага калгаса, вясковая моладзь яшчэ ў 70-ыя гады. Дзесьці ў 1982 годзе, калі я быў начальнікам гміны, пераянялі мы яе — у дрэнным стане — ад сельскагаспадарчага камбіната (WSGR — Wielozakładowe Spółdzielcze Gospodarstwo Rolne) у Нарве, часткай якога з'яўляўся тады і тыневіцкі калгас. Адрамантаваны будынак перадалі мы „Руху", а калі паў „Рух", там сваю краму адчыніла нараўская фірма „Пронар". У мінулым годзе „Пронар" пакінуў гэты будынак — як і падобныя ў Макаўцы, Курашаве, Даратынцы — прычым поўнасцю зруйнаваны. Каб прывесці яго ў карыстанне, трэба не менш ста мільёнаў злотых.

Было некалькі кандыдатаў — у тым і мясцовыя — узяць святліцу ў арэнду. Конкурс выйграла беластоцкая фірма „Podlasie" — мы вырашылі, што яна дае найбольшыя гарантыі на рамонт самога будынка і ўпарадкаванне акружэння. У нашай гміне „Podlasie" мае свае крамы ў Іванках, Бялках, Сацах, Агародніках, усюды парадак, добрае забеспячэнне таварамі, прыкладнае абслугоўванне. Вось, гэтай суполцы **аддалі мы тыневіцкую святліцу ў арэнду на 5 гадоў, а не прадалі, як было сказана па радыё.**

А са школьным будынкам справа выглядае так. Гмінная рада прыняла пастанову аб перадачы яго пад асяродак культуры, але адначасна не паявілічыла бюджэту таго ж асяродка. Няма нават на тое, каб аплаціць асобу, якая б апекавалася будынкам. Мая мара, каб сарганізаваць там сапраўдны вясковы дом культуры, з бібліятэкай, з залай, дзе можна было б правесці сход ці адзначыць свята. Усё на сёння разбіваецца аб грошы.

У такім клубе калектыў „Тыневічанкі" знойдзе сабе таксама месца. Я ім толькі сказаў, што там мусіць быць нехта адзін гаспадаром — у яго быў бы ключ, ён глядзеў бы за будынкам, нёс за яго адказнасць. А ўсе, то таксама, як бы і ніхто. Я ніколі не быў ворагам калектыву „Тыневічанкі" і цяпер ім не з'яўляюся. Калі не было ў іх свайго інструктара, Алеся Лойку завёз я сваім самаходам. І намаўляў, каб не пераставалі спяваць. А з транспартам, то непаразуменне выйшла з-за таго, што мы, як гміна, не маем свайго аўтобуса. Я нават дакладна не ведаю, чаму школьны аўтобус перад раённым аглядам беларускай песні ў Гайнаўцы не заехаў у Тыневічы. Гэтым займалася кіраўнік Нараўскага асяродка культуры Ірэна Шастай.

**Валянціна Франкоўская:** — Не скажу, раней нам з гміны дапамагалі. І ўборы Ірэна — кіраўнічка культуры — выстара-

☞ *Працяг на стар. 3*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*W 1960 r. na Ziemi było 3 mld ludzi, w 1975 — 4 mld, w 1987 — 5 mld, przed 2000 rokiem będzie 6 mld, a ok. 2030 — 10 mld.*
*(Rzeczpospolita, nr 90)*

На поўначы нашай планеты, — заяўляюць прагнозы, — будзе, аднак, толькі 15 працэнтаў усіх жыхароў Зямлі. У Азіі, Афрыцы і Лацінскай Амерыцы можа быць цеснавата, але яны з гэтым справяцца на свой спосаб.

* * *

*Ekonomiści rosyjscy są przeciwnikami zjednoczenia Rosji i Białorusi. Ich zdaniem o wiele wygodniej jest traktować Białoruś jako formalnie niepodległą kolonię, niż brać ją sobie na kark z całym dobrodziejstwem inwentarza.*
*(Najwyższy Czas, nr 14)*

Лепшыя эканамісты, чым імперыялісты.

* * *

*Chamstwo nie jedno ma imię. Teraz polski cham, którego cechuje arogancja i absolutna pewność, że mu się wszystko należy pada w ramiona chama światowego. (...) Najlepszą lekcję chamstwa stanowi emisja amerykańskiego filmu. Filmy te w bardzo przystępnej formie uczą, jak w chamski sposób traktować bliźniego.*
*(Polityka, nr 17)*

Калі браць прыклады, хаця б хамства, дык трэба браць найлепшыя.

* * *

*Polska werbuje szpiegów wśród obywateli Białorusi odwiedzających Polskę.*
*(Kurier Poranny, nr 80)*

Відаць, памерлі нейкія старыя шпіёны і трэба было дапоўніць кадры новымі.

* * *

*У Беларусі пачалася прэзідэнцкая гонка. Некаторыя кандыдаты нават красці перасталі, заняліся выбарамі.*
*(Свабода, н-р 15)*

Безумоўна, калі хтосьці хоча быць прэзідэнтам, мусіць пакінуць на нейкі час іншую дзейнасць і заняцца выбарчай кампаніяй.

* * *

*Środki masowego przekazu Rosji opublikowały szereg programów zapewniających o żelaznym zdrowiu prezydenta Jelcyna i jego nienawiści do alkoholu.*
*(Polityka, nr 17)*

Быў час у Расеі, калі людзі верылі нават у інфармацыю, што першы нарадзіўся сын, а пасля яго бацька.

* * *

***Зроблены рашучы крок на шляху вяртання Беларусі ў Расею. Акцыі прэм'ера Кебіча растуць.***
*(Звязда, н-р 75)*

Цікавая краіна — гэтая Беларусь. Прэм'ер, які прадае сваю дзяржаву, карыстаецца такім чынам падтрымкай выбаршчыкаў у прэзідэнцкіх выбарах. Сюррэалізм!!!

* * *

*W dawnym ZSRR sportowa produkcja była odzwierciedleniem państwowej myśli Kremla. Lwia część dorobku gimnastycznego ZSRR dostała się w spadku Białorusi, która uczyniła z niej dyscyplinę eksportową. Sześciokrotny mistrz olimpijski Witalij Szczerbo jest sztandarową postacią białoruskiego sportu.*
*(Rzeczpospolita, nr 97)*

Паводле журналіста „Рэчыпаспалітай" гімнастычныя дасягненні беларусаў — гэта вынік загадзя запланаванай крамлёўскім кіраўніцтвам акцыі. Temu panu w „pale się nie mieści", што магло б быць інакш. Але гэта ўжо праблема яго здароўя.

* * *

*Ochroną mienia w Polsce zajmuje się obecnie w Polsce 5 tys. firm. Zatrudniają one od 120 do 150 tys. osób. W rzeczywistości armia prywatnych policjantów jest większa — w tym fachu pracuje około 200 tys. ludzi. W policji państwowej dla porównania pracuje 96 tys. funkcjonariuszy. Argumentem w pracy prywatnych detektywów staje się szantaż, gumowa pałka, rozgrzana lokówka. Detektywi bez skrępowania wykonują podsłuchy, zakładają „pluskwy".*
*(Wprost, nr 15)*

Бяспечна, як халера!

* * *

*Białostoczanie są zapewne zgłodniali papierowego seksu, jednakże w kraju, gdzie seks jest czymś w rodzaju przestępstwa, gdzie nawet szkolne wychowanie uważane jest w pewnych kręgach za ruję, poróbstwo oraz wszeteczeństwo, wejście do sex shopu jest szczytem odwagi.*
*(Gazeta Współczesna, nr 81)*

Можна ўявіць толькі, што сталася б, калі б ахвотнага купіць часопіс з голымі паненкамі пабачыў сусед ці знаёмы і паінфармаваў ксяндза пробашча. Каяцца трэба было б з пяць гадоў.

* * *

*Tłumy pań i panienek błagały lokaja Napoleona o wprowadzenie w pobliże sypialni cesarza. Pani Walewska powiedziała Napoleonowi „nie". Lecz wtedy właśnie rozpoczęło się misterium narodowej prostytucji. Spójrzmy na tłum patriotów, hipokrytów, szwoleżerów, polityków, karierowiczów perswadujących młodej dziewczynie, że musi wyrzec się natychmiast swoich religijnych przesądów i moralnych zahamowań. Zanim uległa już zgodził się jej mąż i odebrawszy należne tak obywatelskiej postawie hołdy, wyjechał pielęgnować narodowe uczucia w zagranicznych lupanarach. Brat liczył z kolei na wojskowe awanse...*
*(Polityka, nr 16)*

Цікавая гэта гісторыя, праўда?

* * *

*Tylko co czwarty poborowy potrafi podciągnąć się na drążku więcej niż pięć razy. Większość nie ma ochoty na obronę naszych granic. Dla większości służba to zło konieczne.*
*(Wprost, nr 17)*

Не хочацца верыць, што ўрокі рэлігіі так паўплывалі на моладзь.

* * *

*Niedawno siedlecki „Polmos" swoją czystą ozdobił twarzą Chopina i angielskim tekstem, w którym oznajmia się: „Ten produkt jest czysty i prawdziwy jak muzyka Chopina". A czystą wódkę pod tytułem „Mikołaj Kopernik" też piłem. I gwiazdy potem były i obroty ciał. Wszystko jak nazwa wskazuje* — заяўляе Станіслаў Тым.
*(Wprost, nr 17)*

# З мінулага тыдня

Пасля святочнага перапынку **прафсаюз „Салідарнасць"** узнавіў забастовачную акцыю ва ўсёй краіне. У многіх рэгіёнах былі праведзены кароткія перасцерагальныя страйкі. Быў таксама ўзноўлены страйк у металургічным заводзе „Сталёва Воля", рыхтаваліся забастоўкі ў суднаверфях і шахтах.

**Прэзідэнт Лех Валэнса**, які ўдзельнічаў у пасяджэнні ўрада, прысвечаным пытанням бяспекі, сцвердзіў, што страйкі, асабліва ў стратэгічных галінах, ствараюць небяспечную абстаноўку ў краіне. На думку прэзідэнта, „шляхам грамадскага пагаднення", без неспадзяванасці для прафсаюзных дзеячоў, толькі шляхам перамоваў трэба ўстанавіць, што „не ўсе бастуюць і не ўсе плацяць кошты страйкаў. Нельга дапусціць да таго, каб стратэгічныя элементы гаспадаркі былі паралізаваны, бо гэта з'яўляецца небяспечным для краіны", — сказаў Л. Валэнса.

**Маршалак Сейма Юзэф Алексы** падчас сустрэчы з калектывам варшаўскай Фабрыкі легкавых аўтамабіляў крытычна ацаніў імкненне „Салідарнасці" да атрымання дамінуючай пазіцыі ў працоўным прадстаўніцтве. „Не акцэптую саюза, які ставіць сабе за мэту звяржэнне ўрада. Гістарычныя заслугі „Салідарнасці" — вялікія, аднак абвяшчэнне генеральнай забастоўкі — гэта ва ўсім свеце крайнасць. Не думаю, што сітуацыя ў краіне абгрунтоўвала такую патрэбу", — сказаў маршалак Сейма. На яго думку, паняцце грамадскай справядлівасці было адкінутае чатыры гады таму. Толькі цяперашні ўрад намагаецца рэалізаваць іншую стратэгію.

**Прафесар Гжэгаж Калодка** атрымаў з рук прэзідэнта РП **Леха Валэнсы** ў прысутнасці прэм'ер-міністра **Вальдэмара Паўляка** акт прызначэння па пасаду намесніка старшыні Рады Мністраў і міністра фінансаў.

**Польскі бок** спадзяецца, што прэзідэнт Расеі **Барыс Ельцын** прыме ўдзел у святкаванні 50 гадавіны выбуху Варшаўскага паўстання. На гэтую ўрачыстасць ужо запрошаны прэзідэнты Нямеччыны і Францыі, а таксама прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі, — паінфармаваў міністр замежных спраў **Анджэй Аляхоўскі**, які ў Маскве сустрэўся з шэфам расейскай дыпламатыі **Андрэем Козыравым**.

**Прэм'ер-міністры Славакіі і Венгрыі** падчас неафіцыйнай сустрэчы на граніцы ўзгоднілі графік вырашэння праблемаў, звязаных са спрэчнай гідраэнергетычнай інвестыцыяй у Габчыкаве на Дунаі. Прэм'еры закранулі таксама праблему нацыянальных меншасцяў, асабліва венгерскай ў Славакіі.

**Аб неабходнасці аблягчэння вяртання ў Польшчу** ссыльных палякаў, якія звыш паўвека прабываюць у Казахстане, гаварыў **В. Зямбінскі** — старшыня Партыі вернасці Рэчыпаспалітай на сустрэчы прадстаўнікоў цэнтрысцкіх і правых груповак пасля набажэнства з нагоды 3 Мая ў варшаўскім касцёле Св. Крыжа.

**У царкве Успення Прасвятой Багародзіцы ў Заблудаве** адбыліся ўрачыстасці ў гонар Святога Мучаніка Гаўрыіла спалучаныя з малітвамі за Айчыну з нагоды 203 угодкаў Канстытуцыі 3 Мая. Набажэнства адправіў епіскап Вроцлаўскі і Шчэцінскі **Ерэмія** ў саслужэнні епіскапа Люблінскага і Холмскага **Авеля** ды шматлікага духавенства.

**Польская спявачка Эдыта Гурняк** на канцэрце „Еўравізіі" ў Дубліне заваявала другое месца песняй „Гэта не я", да якой музыку склаў **Станіслаў Сырэвіч**. Ізраільскі спявак **Іоні Намэры** абвінаваціў польскага кампазітара ў плагіяце і заявіў, што напісаў ён гэтую мелодыю ў 1988 г. Станіслаў Сырэвіч сказаў, што ён здзіўлены гэтай весткай, паколькі напісаў сваю песню ў 1984 годзе, а ізраільская версія з'яўляецца дакладнай копіяй яго твора дзесяцігадовай даўнасці.

**Сокі „Бэбі"** трапілі ў эксклюзіўны клуб „Цяпер Польшча". Журы Фонду „Цяпер Польшча" прысвоіла сокам, якія выробляе Беластоцкае прадпрыемства па перапрацоўцы фруктаў і гародніны, права ўжываць на сваіх вырабах прэстыжны гандлёвы знак. У конкурсе прымала ўдзел амаль трыста вырабаў, а перамаглі толькі 15 прадуктаў.

**Паліцыя арыштавала чатырох мужчын**, якіх падазраюць у забойстве ў 1992 годзе былога прэм'ер-міністра ПНР **Пятра Ярашэвіча** і яго жонкі Аліцыі. Падазроных у злачынстве затрымала спецыяльная паліцыйная група пад канец красавіка г.г.

Радыёвяшчальныя станцыі **„BIS"** і **„AKADERA"** з Беластока атрымалі дазвол на перадачу сваіх праграм.

# Праз тыдзень у „Ніве"

- Падарожжа з Беластока ў Ялоўку — рэпартаж Алега Латышонка.
- Як застацца сабою — пра свой лёс расказвае Алесь Палескі.
- „Маладая Белавежа" ў Менску.
- П'яныя дзеці — рэпартаж Аліка Максімюка.



# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Прэзідэнцкая гонка

Цэнтральная камісія па выбарах прэзідэнта рэспублікі зарэгістравала 19 ініцыятыўных груп, якія ажыццяўляюць збор подпісаў выбаршчыкаў (а іх трэба сабраць 100 тысяч) у падтрымку вылучаных кандыдатаў. Рэальныя шанцы зрабіць гэтае маюць нямногія. Сярод тых, чые імёны апынуцца ў выбарчых бюлетэнях з вялікай доляй упэўненасці можна назваць прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча, былога спікера парламента Станіслава Шушкевіча, лідэра БНФ Зянона Пазьняка, старшыню парламенцкай антыкарупцыйнай камісіі Аляксандра Лукашэнку, лідэра камуністаў Васіля Новікава і мэра Маладзечна Генадзя Карпенку.

## Нечарговая сесія

27 красавіка г.г. дэпутаты Вярхоўнага Савета правялі галасаванне за кандыдатаў у члены Канстытуцыйнага Суда. Адзначым, што намеснікам старшыні КС выбраны Валерый Ціхіня — намеснік старшыні Вышэйшай атэстацыйнай Камісіі пры Савеце Міністраў, а старшыню, згодна з Канстытуцыяй, запрапануе для зацвярджэння Вярхоўнаму Савету прэзідэнт рэспублікі. Дэпутаты разгледзелі таксама пытанне аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты. Падставай для гэтага паслужыла падпісанне кіраўніком Савета Міністраў Вячаславам Кебічам дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расеі. На абмеркаванне выносіліся два праекты пастаноў. Пасля дыскусіі большасць дэпутатаў аддалі свае галасы за прапанову ўрада. Кіраўнік парламента Мечыслаў Грыб прапанаваў наступную сесію правесці пасля выбару першага прэзідэнта Беларусі.

## Юбілей „Радзімы"

Беларускае таварыства „Радзіма" адзначыла трыццацігоддзе з дня свайго стварэння. Амаль трэць стагоддзя назад з'явілася яно, каб падтрымліваць культурныя сувязі з прагрэсіўнымі, як тады гаварылася, суайчыннікамі і іх арганізацыямі за мяжой. На святкаванне юбілею былі запрошаны стваральнікі Таварыства, спонсары, прадстаўнікі Вярхоўнага Савета і ўрада, а таксама суайчыннікі з бліжняга зарубежжа ды прадстаўнікі БГКТ з суседняй Польшчы.

## „Паланез для касінёраў"

— так называецца выстава, прысвечаная 200 угодкам вызваленчага паўстання пад кіраўніцтвам Тадэуша Касцюшкі, якая адкрылася ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі ў Менску. Упершыню Беларусь шырока і галасна аддае належнае сваім сынам-паўстанцам 1794 года, якія паспрабавалі вярнуць сваёй зямлі волю. Доўгія гады гэты значны гістарычны факт па зразумелых прычынах замоўчваўся, але рана ці позна час расстаўляе ўсё на свае месцы. Мерапрыемствы па рэабілітацыі гэтай даты будуць праводзіцца да канца верасня.

## Новы пасол

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Георгій Таразевіч, які займаў пасаду намесніка міністра замежных спраў, назначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча.

## Помнік Міцкевічу

У Гродне па вуліцы Дзяржынскага будзе ўзведзены помнік-бюст Адаму Міцкевічу. Гэтую ініцыятыву Саюза палякаў Беларусі падтрымаў Гродзенскі гарвыканкам. З 1 мая аб'яўлены конкурс на лепшы праект як для асобных аўтараў, так і для творчых калектываў Беларусі і Польшчы. Першая прэмія — 500 долараў ЗША.

## Стары Менск

Унікальную калекцыю беларускага мастака з Рыгі Вячкі Целеша маюць магчымасць пагледзець жыхары беларускай сталіцы ў Літаратурным музеі імя Максіма Багдановіча. Дзве сотні паштовак канца XIX і пачатку XX стагоддзя дапамогуць уявіць, якім быў Менск у мінулым стагоддзі і на зары гэтага. Выстаўка ў будынку музея на Траецкім прадмесці будзе адкрыта да канца мая.

## Экалагічная небяспека

Сёлетняя вясна багата на стыхійныя бедствы. Не абышла яна і Лідскі раён. Пад націскам паводкавых вод прарвала дамбу ачышчальна-гаспадарчых забудоў шклозавода „Нёман". У выніку каля сарака кубічных метраў сцёкаў выліліся на прыватны сектар гарадка шклозавода. Затопленымі аказаліся 174 прыватныя дамы і падвор'і. Праз паўтары гадзіны аварыю ўдалося ліквідаваць, але тое, што здарылася тоіць у сябе вялікую небяспеку, таму што неачышчаныя сцёкі хлынулі ў Нёман.

## Піўная кантрабанда

З-за работнікаў беларускай міліцыі жыхары Урала не маглі папіць нямецкага піва. У час правядзення аперацыі „Вакзал" па выяўленню правапарушэнняў на чыгунцы, яны затрымалі намесніка начальніка станцыі Смаргонь, які за хабар спрабаваў аформіць адпраўку таварнага вагона пад выглядам парожняга да станцыі Апаратнай Свярдлоўскай чыгункі. На самай жа справе ў ім знаходзілася 12 тон бурштынавага напітку.

# ВІНАВАТЫ КАПІТАЛІЗМ?

Працяг са стар. 1

лася, і войт нас падтрымліваў, заахвочваў спяваць. Але апошнім часам нешта не ладзіцца. У Арэшкава, на юбілей тамашняга калектыву, то яшчэ транспарт быў, а ўжо ў Гайнаўку — не. Ірэна пазваніла толькі ў суботу вечарам — напярэдадні агляду — што аўтобус па нас не заедзе, каб мы дабіраліся самі. Наш музыкант, Ян Дудзіч, павазіў нас сваёю таксоўкай у Курашава, адкуль забраў нас чыжоўскі аўтобус. Назад, праўда, вярнуліся мы аўтобусам з Нарвы, але ў Гайнаўцы перагаварыліся такі добра з кіраўнічкай культуры. У Беласток таксама ездзілі мы з Чыжамі, але тут ужо было ўсё дамоўлена. Аднак мы не ведаем, як будзе далей, ці нам яшчэ спяваць, ці будзе чым куды паехаць?

А яшчэ з тымі рэпетыцыямі — не маем дзе збірацца спяваць. Раней мелі мы пакойчык у святліцы, а цяпер па хатах ходзім. Некалькі разоў збіраліся ў школе, але калі папрасілі войта, каб даў нам ключы, каб мы маглі там сабрацца, калі захочам, прыбраць, упрыгожыць залу па-свойму, то не. Сказаў ён нам, заплаціць па мільёне — ано я не ведаю, за месяц, за год, ці ўсяго — і бярыце. Ну то я кажу, дзе хто такое бачыў, каб за сваю школу мы шчэ плацілі. А нашто ж мне яе купляць, калі свая хата ёсць — хопіць, каб памерці. Але проста хацелася мець як у людзей, як у тым жа Арэшкаве, напрыклад. Мы казалі войту: дайце нам хоць адзін пакой, дзе раней канцылярыя была, а мы вас праз месяц запросім, тады пабачыце, што могуць зрабіць тыневіцкія бабы. Але дзе там, нават прыступу не было. Усё, каб нехта адзін узяў, каб купіў. Ну, калі так, то мы нават запрапанавалі адну кабету, што магла б заапекавацца школай. Якраз па-суседску жыве, то ёй вельмі зручна было б. Чамусьці войт лічыць, што ў вёсцы толькі адзін чалавек надзейны, толькі ён можа трымаць ключы і шчэ за гэта грошы браць.

**Ян Тапалянскі:** — Ключы ад школы ў апошняга „возьнага". Сапраўды, восенню, калі школа ў Тыневічах ужо не працавала, атрымліваў ён 800 тысяч са школы ў Нарве. Гэта, як выявілася, вельмі абурыла аднавяскоўцаў. Таму ён цяпер — задарма — рамантуе перавезеную ў школу са святліцы зусім знішчаную мэблю. Адкуль школа пад асяродкам культуры, ніякай зарплаты ён не атрымлівае.

**Ян Хіліманюк** (сябра Гмінnай управы ў Нарве, радны ад Вялікіх Тыневічаў): — Я думаю, што лепш пра гэта не пісаць, бо што тым зробіш. Ёсць пастанова Рады, цяпер трэба чакаць яе выканання. Павядомлены быў Ваяводскі асяродак анімацыі культуры, будзем спадзявацца нейкага вырашэння. А цяпер, то толькі плёткі паўтараць будзем, лепш не пісаць.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
**Фота аўтара**



*Святліца — сёння руіна, а яшчэ нядаўна гонар усяе вёскі з-за яе неардынарнай архітэктуры (на плане васьмікутніка).*

# ЗАЛАТЫЯ РУКІ

Віталь Шчэрба так натуральна адчувае сябе на гімнастычных прыладах, што называюць яго малпай. Ходзяць чуткі, што нават трэніравацца надта не мусіць — проста такім нарадзіўся. Праславіў ён сябе і родную Беларусь, заваёўваючы шэсць залатых медалёў на апошніх алімпійскіх гульнях у Барселоне.

Медалямі доўга не нацешыўся, бо зараз жа пасля вяртання ў Менск нехта іх украў. Укралі таксама Віталю новенькую машыну.

У другой палове красавіка г.г. у Брысбейне ў Аўстраліі адбыўся чэмпіянат свету — нагода абнавіць калекцыю медалёў. Чэмпіянат пачаўся для Віталя даволі ўдала.

У сваім гасцінічным пакоі ён знайшоў канверт, а ў ім чэк на 1000 долараў і ананімнае прысвячэнне: „Я чуў аб Вашых фінансавых праблемах. Прыміце, калі ласка, гэты дар ад аўстралійскага сімпатыка як падзяку за ўсе перажыванні, выкліканыя Вашымі выступленнямі".

Віталь крыху расслабіўся такім незвычайным прызнаннем, або занадта паверыў у чуткі, што яму не трэба трэніравацца (па ягонай постаці відаць было, што не прытрымліваецца дыеты), бо першая канкурэнцыя — шматбор'е, дала яму „толькі" бронзавы медаль.

Дзякуй Богу, што залаты медаль заваяваў іншы беларус, 19-гадовы Іван Іванкоў. Іван — гэта чэмпіён Еўропы ў шматбор'і за 1991 год. Выступае вельмі ўпэўнена і роўна. Хаця не выйграў ніводнай канкурэнцыі, сума ўсіх выступленняў не дазваляе сумнявацца, што ў шматбор'і няма яму роўных.

Шчэрба вельмі перажыў свой пройгрыш. „Я яшчэ ніколі ў сваёй кар'еры не ўпаў двойчы ў адзін дзень спаборніцтваў. Гэта мне здарылася ў Брысбейне. Я нібыта ўсміхаўся, віншаваў свайго сябра Іванкова з залатым медалём у шматбор'і, але не ўсё было са мной у парадку. Я сабе падумаў, што калі не заваюю двух залатых медалёў на паасобных прыладах, дык мусіць скончу кар'еру", — заявіў 22-гадовы Шчэрба.

Канчаць кар'еру Віталю не прыйдзецца. Ён перамог у спаборніцтве ў трох канкурэнцыях: скачку, гімнастыцы на перакладзіне і свабодных практыкаваннях. Тры новыя залатыя медалі! Іван Іванкоў заваяваў толькі адну бронзу, але зусім гэтым не перайма́ўся. Хопіць яму золата ў шматбор'і.

Такім чынам Беларусь апынулася на I месцы ў класіфікацыі паводле колькасці залатых медалёў, заваяваных на чэмпіянаце свету ў Брысбейне. Беларуская гімнастычная школа надалей застаецца найлепшай у свеце.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# ПРАМАНТАЧАНЫ СКР

Калі пачало прыграваць сонца, заспявалі птушкі ў полі і стала ажываць прырода, якая спала цвёрдым сном цэлую зіму. Абудзіўся і гаспадар, які ўжо думае, як дачакаць цёплай вясны, як пракарміць каровы, ялоўнік і каня. Думка гэтая не дае спакойна спаць, бо сена і зерне трэба купіць, а грошай няма адкуль браць. Малако, якое здаем у малачарню, зусім таннае: выходзіць дзве тысячы злотых за літр малака. Прыходзіць вясна, а з вясною вялікія выдаткі, каб можна было ўсю зямлю абсеяць. За ўсю зіму не з'явіўся на вёсцы ніводзін аграном, каб падказаць людзям што, як і дзе сеяць, колькі і якіх даваць угнаенняў. Ніхто гэтым не цікавіцца. Калісь, за камуны, прыязджалі аграномы і вучылі гаспадароў агратэхніці і заатэхніцы: як карміць танным коштам, як гадаваць, каб дамашняя жывёла была здаровай. Для жанчын былі арганізаваны розныя курсы: як шыць, як пячы рознае пірожнае, як добра варыць і што рабіць з мясам, каб даўжэй паляжала і заўсёды свежае і добрае было. Думалі тады і пра моладзь — арганізавалі розныя курсы, конкурсы і экскурсіі па цэлай Польшчы. Было тады відаць, што вёскаю хтось цікавіцца і жыццё было цікавае. Цяпер нікому нічога не трэба. Вёскі апусцелі. Трактароў і сельскагаспадарчых машын ніхто не купляе, бо дарагія. За камуны былі сельскагаспадарчыя гурткі, у якіх можна было наняць трактар і сельскагаспадарчыя машыны і то за ўмераную цану.

Цяпер чырвоны капіталізм зліквідаваў СКРы а машыны і трактары — прагулялі. Для прыкладу магу прывесці заблудаўскі СКР, які пабудаваў новую базу, у якой было ўсё, што трэба за адным выключэннем: не хапала гаспадара, які мог бы весці гэтую базу належным чынам. Старшыня і загадчык склада не пільнавалі свае работы, за якую ім плацілі, але пільнавалі сваіх інтарэсаў, на якіх добра выйшлі. Гэтым людзям СКР быў дойнай каровай, якую даілі кожны дзень: яны доўга будуць успамінаць СКР, дзякуючы якому цвёрда сталі на ногі. З-за такіх людзей гаспадары ў Заблудаўскай гміне не маюць машын, якімі маглі б абрабляць сваю зямлю. На вёсках людзі гавораць аб гэтым і пытаюць, як можна было дапусціць да таго, каб некалькі чалавек маглі так хутка прагуляць СКР і ніхто гэтым не пацікавіўся.

„Эскаэраўскую" маёмасць стварылі за грамадскія грошы. А што цяпер засталося грамадству?..

**М. П.**

# ЯК МІШКА Ў ХЛЯВЕ НАЧАВАЎ

Жонка Мішкі была прыгожай жанчынай. Улюбіўся ў яе Вася і яны патаемна кахаліся. Вырашылі яны кахацца ў хаце Мішкі, аднак на перашкодзе стаяў гаспадар, які рэдка выходзіў з дому. Аднойчы жонка Мішкі сказала мужу:

— Чаму ты не ходзіш у карчму, так як другія мужчыны, толькі заўсёды сядзіш дома? Вазьмі грошы і пайдзі!

Падумаў Мішка, што можа і добрая гэтая жончына прапанова. Узяў ён грошы і пайшоў. У карчме сустрэў сяброў, з якімі піў да позняй ночы, а ў тым часе яго жонка кахалася дома з Васілём. Здарова выпіўшы, вярнуўся Мішка да свае хаты і пастукаў у дзверы. Падышоў да дзвярэй жончын каханак і пытаецца:

— Хто там?

— Гэта я, — адказаў Мішка.

— Чаго ты сярод ночы турбуеш мяне?! — крычаў Вася.

Адышоў Мішка і стаў разважаць, дзе яго хата. Пачаў лічыць дамы і зноў застукаў у свае дзверы. І зноў Васіль абругаў Мішку, што не дае яму спаць.

— Вось як гэта ёсць; прыйшлося адзін раз выпіць і ўжо не можна папасці ў сваю хату, — падумаў Мішка і пайшоў спаць у хлеў.

Раніцай, калі прыйшоў дахаты, жонка абругала яго, што дзесьці цэлую ноч шляўся.

Падумаў Мішка, што калі не мог, выпіўшы, трапіць у хату, значыць, нельга яму больш піць гарэлкі.

**МІКАЛАЙ ПУЧКО**

# KOMUNIKAT

Dnia 20 kwietnia 1994 r. w Hajnówce **Białoruski Komitet Wyborczy i Społeczno-Demokratyczny Komitet Wyborczy** skupiający: SdRP, PSL, UP, ZNP, SD, Miejskie Porozumienie Branżowych Związków Zawodowych, Związek Kombatantów i Byłych Więźniów Politycznych, Związek Byłych Żołnierzy Zawodowych, Stowarzyszenie Wisła-Odra, Związek Emerytów i Rencistów, Związek Kółek i Organizacji Rolniczych, Związek Młodzieży Wiejskiej i Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce utworzyły wspólną koalicję wyborczą o nazwie **Społeczno-Demokratyczna Koalicja Wyborcza.**

**Przewodniczący**
**Rady Koalicyjnej**
**mgr J. SIRAK**

# А КАЛІ БЫЛО Б НААДВАРОТ

Усхваляваў мяне змест артыкула „Малашкодны ўчынак" („Ніва", н-р 17), дзе гаворыцца пра паводзіны каталіцкіх суседзяў спадарства Талуцёў з Беластока. Проста неверагодна, што дзеці глыбокаверуючых людзей з такой пагардай адносяцца да пенсіянераў праваслаўнага веравызнання. Каб „кацапы" не выйгралі вайны, немцы праўдападобна зрабілі б з палякамі тое самае, што з яўрэямі. Спецыялісты па ахове парадку здзек над пажылымі людзьмі лічаць малашкодным учынкам. Ці гэта нармальнае? А можна сабе ўявіць, што сталася б, калі б сітуацыя была адваротная. Каб у будынку, дзе большасць праваслаўных, так адносіліся да католікаў. Я ўпэўнены, што загаварыў бы пра гэта прэзідэнт, Сейм цэлы дзень дыскутаваў бы, як вырашыць праблему, сродкі масавай інфармацыі не змоўклі б з месяц, паліцыя і пракуроры напісалі б тону розных пратаколаў. Калі „Салідарнасць" паінфармавала прэм'ера, урад і тайную паліцыю, што журналіст „Нівы" незнарок наступіў на іх транспарант, дык можна сабе ўявіць, каго паінфармавалі б, калі б хтосьці з іх знайшоўся ў падобнай сітуацыі, як спадарства Талуці, якім можна толькі паспачуваць з прычыны такога суседства.

**МІКОЛА ПАНФІЛЮК**




# ДА „ПІСЬМАЎ З ФЛАРЫДЫ”

„Адкрыццю беларускае Амерыкі” „Ніва” адвяла нямала месца і артыкулы на гэтую тэму перасталі прыцягваць маю ўвагу. Усё, што можна было лічыць новым ці цікавым вычэрпалася і публікацыі пра гэта стаў я толькі пераглядаць, не ўглыбляючыся ў дэталі. Няйначай, праўдападобна, успрыняў бы я меркаванні Сакрата Яновіча ў „Пісьмах з Фларыды”, калі б не рэакцыя паважанага чытача з Амерыкі, усхваляванага чацвёртым „Пісьмом” у „Ніве” н-р 47 ад 21.11.1993 г. Аўтарытэтны ў асяроддзі, не толькі беларускім, Амерыкі — старшыня Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі — Расціслаў Завістовіч, спадзяюся, выбачыць мне смеласць апублікаваць яго заўвагі, змешчаныя ў прыватным лісце. Ягоныя заўвагі датычаць аднак агулу, як піша, тамтэйшых беларусаў і нялішнім будзе працытаваць іх даслоўна: „У сваёй „філасофскай” філіпіцы ў леташнім лістападаўскім 47-м нумары „Нівы” наш беларускі Сакрат пісаў з Амерыкі, што мы, тутэйшыя беларусы, маем прэтэнзіі да „Нівы”, бо хочам, каб яна ўся рабацілася клічам тыпу „Жыве Беларусь!” і што „гэтакі манатонны часопіс ніхто не купляў бы”. Дык вось, хаця „Ніва” зусім слушна і засяроджвае сваю ўвагу на жыцці Беласточчыны і не „рабаціцца” нашымі патрыятычнымі клічамі, мы яе чытаем і падтрымоўваем, бо нас вельмі цікавіць, што робіцца ў гэтай частцы яшчэ (хочацца верыць!) беларускай зямлі. Мы таксама верым, што пачынаючы выдаваць „Ніву” яе заснавальнікі клапаціліся найперш аб захаванні нашае духовае беларускае спадчыны на Беласточчыне і, ужо пазней, аб задавальненні зямных патрэбаў нашых сакратаў...” Не цяжка задумацца, што „Ніва”, якая разглядаецца ў працытаваным фрагменце ліста, гэта толькі верхавіна ледзяной гары. Аб'ектыўна трэба сцвердзіць, што кожны чытач тыднёвіка знойдзе нешта цікавае для сябе, пачынаючы ад рэгіянальных праблемаў, цераз паважныя апрацоўкі з абшару гісторыі краіны, царквы, тое-сёе з літаратуры, мастацтва, палітыкі, весткі з Беларусі і іншае. Не пакрыўджаныя ў „Ніве” і дзеці ды моладзь, ёсць крыху гумару, сатыры. Адпушчана ў ёй месца і людскім штодзённым справам, ды нельга не заўважыць, што кожная публікацыя прасякнута, згодна з пажаданнем чытачоў, ідэяй жыцця Беларусі. Каб зразумець, аднак, „пакрыўджаную Яновічам душу” (гэта таксама цытата) беларускіх амерыканцаў, неабходна паглыбіцца ў сэнс „пісьма з Фларыды” апублікаванага ў 47 н-ры „Нівы”. Сакрат расчараваны няўдачай выдавецкіх інтарэсаў у Амерыцы і паменшаннем чаканага ім зацікаўлення яго асобай, стараецца выразна „дасаліць” беларускай дыяспары, дапасоўваючы да гэтага адмысловую філасофію. На змену пачатковаму свайму крытычнаму погляду на ўсеўладны на захадзе культ індывідуалізму, у якім чалавек „нараджаецца, каб памнажаць багацце”, а кантакт з паэзіяй (чытай з культурай) лічыць стратай часу, ставіць ён процілеглы тэзіс: „прагрэс ідзе крокамі адзінак”. Гэтая думка спатрэбілася Сакрату, як аказалася, да сфармулявання погляду, што ў імкненні Амерыкі да прагрэсу ды дамінацыі інтэлекту над „запацелай рабацяшчасцю” адсутнічаюць беларускія эмігранты, якім быццам бы толькі „важна, што нарэшце зажылі багацей за найбагатшых у Бацькаўшчыне”..., „Дагналі хлеб і добра ім”, — сцвярджае С. Яновіч. Падрыхтоўваючы чытача да гэтага вываду, аўтар пісем стараецца даць сваю характарыстыку беларускаму эмігранту, які ў амерыканскай тэлевізіі бачыць толькі „рухомыя абразкі”. Праблема „разгортвання эміграцыйнага жыцця” ў ацэнцы Сакрата — гэта „чорны жарт”, а разважанні яго субяседніка пра „смаркаты шавінізм санацыйнай Польшчы ды ідыятызм прыйшоўшых у трыццаць дзевятым саветаў” зводзяць госця з Беласточчыны да „сумнага пазяхання”, як нешта „дакладна ўжо забытае, табою ці па адноснай моладасці — зусім невядомае, не перажытае”.

Ды з кім тут гутарыць нашаму Сакрату, калі „яны амаль нічога не выпісваюць”.

Іншыя дык маюць хоць свайго Бжазінскага. Хай сабе ён у свеце ўжо і забыты, ці паводле іншых — скампраметаваны, але ўсё ж у трэцім „Пісьме з Фларыды” куды больш ён прэстыжны ад вядомага ў свеце навукі нуклеарнага даследчыка Барыса Кіта, што быццам і не пасуе да сакратаўскай панарамы беларускай эміграцыі. Наіўнасцю, а мо і знявагай была б спроба абароны выгнаных лёсам з Бацькаўшчыны верных і адданых ёй землякоў. Яны аж надта паспяхова абаранілі сябе перад гісторыяй і вытрымалі свой цяжкі жыццёвы экзамен. „Пісьмы”, аднак, прыводзяць на думку некалькі, мо часткова і рытарычных, але назойлівых пытанняў:

1. Хто той жменьцы эмігрантаў, засяроджаных, паводле Сакрата, выключна на памнажанні свайго матэрыяльнага дабрабыту, стварыў Беларускі інстытут навукі і мастацтвазнаўства ў Нью-Йорку ці Бібліятэку імя Ф. Скарыны ў Лондане, якая служыць выдатна таксама навуковым даследчыкам з Беларусі і з Беласточчыны?

2. Наколькі можна аднесці да катэгорыі „чорнага жарту” створаныя тымі людзьмі такія актыўныя інстытуты як зямляцкае аб'яднанне ў арганізацыі БАЗА ці Канадскае згуртаванне беларусаў, нацыянальныя базы „Менск” і „Полацк” у ЗША альбо духовыя асяродкі з пабудаванымі, уласнымі сіламі, святынямі?

3. Можна згадзіцца з тым, што вечнага наракання на нанесеныя ў мінулым крыўды народу недастаткова, каб палепшыць долю і можна было б гэта прамаўчаць.

Аднак жа, як зразумець паважанага аўтара кніжкі „Беларусь, Беларусь”, што публічна крытычна ставіцца да чалавека, які ўсхваляваны наступствамі той крыўды на ўсё жыццё шукае аўтарытэту, якому можна выспавядацца з тых назойлівых пачуццяў? Ці на самай справе для Сакрата ўсё тое (як сёння піша) „даўным даўно адышло ў мінулае, забытае, зусім невядомае, не перажытае”? Ці ўся тая пісаніна ў „Ніве” пра пацыфікацыю беларускіх вёсак у недалёкім мінулым, пра цяперашнюю агрэсію, праяўленую ў фельетоне „Пад іншымі крыжамі”, пра ігнаранцкія выступленні ў „Нядзельным госцю”, ці правакацыі ў адносінах да беларускіх арганізацыяў, у тым ліку свежая — да рэдакцыі „Нівы” і шмат іншых — гэта ўсё невядомае, не перажытае, неактуальнае, а мо і выдуманае аўтарамі тых публікацыяў? А калі не, то чым гэта розніцца ад таго, што ў „Пісьме з Фларыды” названа „смаркатым шавінізмам”? Ясна, што тэма не для „Пісьмаў з Фларыды”, але калі ўжо там закранута публічна, то патрабуе паслядоўнасці.

4. Як пагадзіць канстатацыю С. Яновіча, што „яны (эмігранты — Я. Ж.) амаль нічога не выпісваюць” з фактам стварэння імі ўласнай эміграцыйнай літаратуры, шматлікіх выданняў мастацкай літаратуры, публікацый навуковага, папулярна-навуковага, палітычнага, грамадскага і рэлігійнага характару, як ведамыя ў нас: „Запісы”, „Полацак”, „Беларускі свет”, „Беларуская думка”, лонданскі „Голас часу”, газеты: „Беларус”, „Зважай”, а ў апошні час „Беларускі дайджэст” і іншыя? Думаю, што адказ на гэтыя пытанні знойдзе кожны сам у сваім сумленні. Цікава, як выглядала б працэнтнае параўнанне колькасці чытачоў „Нівы” ў замежжы з тутэйшымі, у адносінах да колькасці беларусаў там і тут, ды дзе хутчэй паступае згаданая ў „Пісьмах” асіміляцыя, а асабліва абыякавасць да роднае мовы маладога пакалення?

Трэба зразумець і ўсхваляванне вельмі паважанага Сакрата Яновіча спатканымі ім нямілымі прыгодамі ды раўнадушнымі адносінамі да яго асобы інтэлектуальнага эміграцыйнага асяроддзя. Нельга аднак забываць і факт публічнага значэння яго асобы, што прыдае асаблівую ўвагу зместу выяўленых ім думак.

**ЯНКА ЖАМОЙЦІН**

# БЕЛАРУСЬ СВЯТКУЕ

Калі збіраешся ў Беларусь пасля амаль гадавога перапынку, хочацца верыць у змены, усё-такі на лепшае. А цябе з самага пачатку пераконваюць у адваротным. Ужо ў Бельску.

Купляеш, для прыкладу — за паўтары гадзіны да адыходу — білет на аўтобус з Бельска ў Гродна. Потым з языком на барадзе дадому, каб пераадзецца і сёетое ўкінуць у торбу ды назад, на станцыю. А тут табе на — дзесяць мінут перад адыходам, спакойна і з усмешкай кажуць, што аўтобуса не будзе. Вось і выехаў у Беларусь — хутка, без ніякіх праблем, як то ў цывілізаваных краінах бывае.

У Беластоку — прыемная неспадзяванка — білеты не толькі ў Менск ёсць, але яшчэ і назад. Праўда, крыху давялося пахадзіць між інфармацыяй і касаю ды нават прыдумаць гісторыю, як то папярэдняга дня дзяжурны руху абяцаў, што зваротныя білеты можна набыць без ніякіх цяжкасцяў. Усё-такі трэба лічыць, што тут справа пайшла хутка і закончылася паспяхова.

Аўтобус, пасля даволі хуткага і павярхоўнага кантролю на мяжы (а ўсё ж змены ёсць),

### ДА МЕНСКА ДАБІРАЕЦЦА НА ЗОЛКУ.

Пралупліваеш падпухлыя ад сну ў малакамфартабельных умовах вочы, выбіраешся з-пад кучы торбаў (чорт падкусіў нас з жонкай згадзіцца на заднія месцы), расцягваеш здранцвелыя косці, выпростваеш закляклыя ногі і ўжо на станцыі гатовы назіраць за новай беларускай рэчаіснасцю. І тут адразу абскакваюць цябе назойлівыя бы мухі таксісты ды іхнія агенты, а пэўна заадно і целаахоўнікі, бо здаравенныя такія і з падазронымі фізіяноміямі. Карыстацца іхнымі паслугамі крыху страшнавата ды і кажуць плаціць сабе ў доларах. За пераезд з вакзала ва Уручча, напрыклад, хочуць 5 доляраў.

Першае ўражанне ад горада — нічога не змяніўся. Тыя самыя шэрагі гмахаў на праспекце,

### ТОЙ САМЫ ЛЕНІН ПЕРАД ДОМАМ УРАДА,

тыя самыя дзіры ў асфальце. Але прыглянуўшыся дакладней заўважаеш, што паявілася многа прыватных кіёскаў, на вуліцах заходнееўрапейскія ды японскія аўтамашыны і, для мяне справа найважнейшая, вонкавая беларусізацыя сталіцы. Зніклі кашмарна-велічэзныя лозунгі часоў інтэнсіўнай пабудовы камунізму, на іх месца прыходзяць меншыя, каляровыя і густоўна аформленыя рэкламныя шыльды — па-беларуску.

Менскія сябры круцяць насамі. Маўляў, табе толькі здаецца, што тут нешта змянілася. От,

### ПАВЕСІЛІ ПАГОНЮ І БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ СЦЯГ,

але ўсё астатняе, як было, так і засталося — тыя самыя людзі, тое самае хамства, тая ж эстэтыка ўрэшце. Разумееш іх ды іхныя няспраўджаныя спадзяванні з другой паловы 80-х. Але не можаш паўстрымацца, каб не сфатаграфавацца з міліцыянтамі ў новай форме, з беларускай сімволікай. Калі ў міліцыі сапраўды такія змены, як відаць на вуліцы, то зразумелым здаецца, чаму паляцелі міністр унутраных спраў і шэф КДБ.

### МЕНСКІЯ КРАМЫ ВАБЯЦЬ ВІТРЫНАМІ.

А ў сярэдзіне поўна тавару! І то якога! Фінская ды нямецкая вопратка, італьянскія боты, французскія парфумы. Шыкарна, элегантна... дорага!

Танны толькі хлеб, які заўсёды камуністычныя ўлады лічылі стратэгічным таварам і цану пільнавалі строга. У час маёй пабыўкі буханка каштавала 300 рублёў, а долар, каб было параўнанне — 11 тысяч. Але ўжо мяса, гэта відаць прадукт не першай патрэбы, бо цэны, такія ж як і ў Польшчы (самыя сасіскі, на нашы грошы — звыш 30 тысяч), хаця якасць тавару яшчэ непараўнальная. Зарплата, каля 20 доляраў у месяц — таксама.

Я глядзеў на поўныя паліцы ды цэны тавараў і, увесь час памятаючы пра зарплаты, дзівіўся, хто можа гэта купляць. А з другога боку, яшчэ больш здзівілі мяне знаёмыя. Кідаюць, праўда, амаль выключна ў гутарцы,

### ТЫСЯЧАМІ І ТО НЕ РУБЛЁЎ,

а доляраў. Гэта, як мне здаецца, сведчыць пра змену менталітэту. Перад людзьмі адкрыліся новыя гарызонты — зразумела, у два бакі, як у дастатак, так і ў галечу — існавання, якіх раней і не падазравалі.

Прычым, у Менску цяпер баюць не пра парфумна-элегантны і не бачаны Захад, а пра добра вядомую грубую і бандыцкую Маскву. Пра тамтэйшыя фартуны і правалы, пра грошы, якімі там варочаюць і парахункі мафіі, „ролс-ройсы” і забойствы. Такі капіталізм ужо не за гарамі, здаецца, коціцца ён у бок Менска, ды ўсё шпарчэй. Нягледзячы на гэтыя жахі, беларусам вельмі хочацца расейскіх грошай, хаця тыя не спяшаюцца іх даваць. Таму на сённяшні дзень не ўводзяць сваёй валюты, расплачваюцца славутымі „зайчыкамі”, над якімі вісіць яшчэ прывід старых савецкіх рублёў. Цэны даюцца якраз у той, даўно неіснуючай ужо валюце — дзесяць разоў меншай за „зайчыка”. Пастаяннае пералічванне пры касе, аказваецца быць не такім і лёгкім, асабліва пры разбудаваных лічбах, а да таго яшчэ кашальку — выпханым малымі і нязвычнымі табе наміналамі. Да свайго ад'езду ні я, ні жонка не навучыліся гладка пералічваць гэтыя валюты, што давала цёткам („девушкам”) пры касах неабмежаваныя магчымасці.

А з ад'ездам то таксама выйшла добра. У Беластоку прадалі нам зваротны білет на аўтобус, які ўзяў ды не прыехаў (з таго ж Беластока). Менскім касіркам да нас „не было никакого дела”. Засталіся мы

### НА ЛАСЦЫ ГРОДЗЕНСКАГА ШАФЁРА,

які адпраўляўся па маршруту ў Беласток дзве гадзіны пазней. На гэты раз ужо мы самі, хутка і спрытна, шмыгнулі пад торбы на задніх сядзеннях.

Ужо ўдома паглядзеў я кучу прывезеных газет. Выглядае з іх, што Беларусь, ні на што не гледзячы, святкуе. У паважанні тут старыя камуністычныя даты, выхаднымі днямі сталі важнейшыя рэлігійныя святы, як праваслаўныя, так і каталіцкія, узнікаюць новыя, дзяржаўныя. У „Звяздзе” Валянцін Жданко напісаў: „У палітычным календары краіны з'явілася новае свята — Дзень Канстытуцыі (15 сакавіка — маё), які аб'яўлены нерабочым днём. Факт гэты наўрад ці выкліча пярэчанні ў грамадстве. Вось толькі ці не зашмат іх, нерабочых дзён? Здаецца, па іх колькасці мы ўжо перагналі ўсіх сваіх суседзяў”.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**

# XIII Міжнародны Фестываль царкоўнай музыкі — неўзабаве!

У Гайнаўскім доме культуры адчуваецца ўжо міжнароднае тхненне фестывалю. Звоняць тэлефоны з усяго свету. Прыслухоўваюся я, як спадарыня Ірына Парфянюк размаўляе з грэчаскім пасольствам. Хор з сорак чалавек з Грэцыі хацеў бы расквартаравацца ў паасобных пакоях. Такога камфорту няма ва ўсёй Беласточчыне.

— Гэты тэлефон нетыповы, наогул удзельнікі прымаюць такія ўмовы, якія прапануем, — паясняе сакратар Фестывалю, спадарыня Парфянюк.

Дырэктар, Мікалай Бушко, толькі што развітаўся са швейцарцамі. Папракае мяне за спазненне. Толькі добрая арганізацыя працы выключае непрадбачанаю нагрузку спраў. А працы сапраўды безліч.

**Праца над Фестывалем працягваецца практычна ўвесь год.**

— І на яве, і ў сне фестываль спадарожнічае майму жыццю. Я ўжо нявольнік гэтае справы, — прызнаецца спадар Бушко. Вялікую ролю ў арганізацыі мерапрыемства дырэктар вызначае сваім супрацоўнікам. Нельга не ўспомніць тут асобу спадарыні Ірыны Парфянюк, Галіны Вайсковіч, Расціслава Кунцэвіча, Славаміра Калішука і іншых. Праз іх рукі праходзяць усе вялікія і малыя арганізацыйныя і не толькі праблемы. Перад фестывалем у працу ўключаюцца працаўнікі Ваяводскага асяродка анімацыі культуры. Наймаюцца таксама дадатковыя людзі. Вялікая дапамога ідзе ад людзей, звязаных з царквой, ад гайнаўскіх святароў і энтузіястаў з усяго свету. Трэба падкрэсліць вялікае заангажаванне ўсяго арганізацыйнага калектыву. За фестываль працаўнікам Дома культуры няма дадатковых грошай.

**— Ёсць пэўны ўжо працёрты шлях,**

— інфармуе мяне спадар Бушко. — Восенню рассылаем правілы фестывалю ўсюды, дзе толькі нам гэта ўдаецца, і карты-заявы. Тады хоры, зацікаўленыя мерапрыемствам, прысылаюць падпісаныя карты-заявы. Тэрмін заяў мінае ў канцы студзеня. Далей арганізатары і знаўцы царкоўнай музыкі ацэньваюць надасланы матэрыял. Трэба сказаць, што з ліку 20 свецкіх хораў выбіраецца 7 ці 8. Ёсць хоры, якія сваёй чаргі чакаюць па 3 гады.

**Фестываль адрасаваны двум тыпам хораў:**

1) якім царкоўная музыка — гэта малітва (царкоўныя хоры),

2) якім царкоўная музыка — гэта мастацтва (свецкія хоры).

Амаль усе хоры ў Польшчы маюць ужо ў сваім рэпертуары царкоўную музыку. Менавіта гэты від музыкі дае шырокія магчымасці рэалізацыі і харыстам, і дырыжору.

У гэтым годзе (22—29 мая) фестываль адкрывае беларускі хор Рыгора Шырмы (дарэчы, ён паўстаў у Беластоку ў 1940 г.). Арганізатары спадзяюцца 39 хораў з 13 краін. Прадбачваецца прысутнасць звыш 1200 удзельнікаў. Варта дадаць, што фестывалем зацікаўлены людзі нават у Паўднёвай Афрыцы. Таксама харысты з Уганды хацелі б прыехаць у Гайнаўку.

**Выступленні хораў і калектываў ацэньвае знакамітае журы.**

Ад пачатку пастаянным удзельнікам журы з'яўляецца айцец Юрка Шурбак — артыстычны дырыжор і дырэктар Ансамбля царкоўнай музыкі Варшаўскай камернай оперы. Ад некалькіх гадоў журы старшынствуе Рамуальд Твардоўскі — дырыжор, кампазітар і выкладчык Музычнай акадэміі ў Варшаве, аўтар „Малой праваслаўнай Літургіі". У журы запрашаюцца таксама найлепшыя дырыжоры прысутных хораў. Напрыклад, у мінулых гадах у журы працаваў Віктар Роўда, дырыжор Хору Дзяржтэлерадыё з Менска. У журы прымаюць удзел таксама прадстаўнікі Царквы і Міністэрства культуры і мастацтва.

— Ад пачатку фестываль арганізуецца за дзяржаўныя грошы. Ёсць дапамога з боку Царквы, прыватных асоб. Але гэта „кропля ў моры". Галоўныя кошты нясе Міністэрства культуры і мастацтва, якое дае заказ на арганізацыю гэтага мерапрыемства. На жаль, гэтыя сродкі недастатковыя. Частку грошай трэба шукаць і ў Гарадской радзе, Ваяводскім аддзяленні культуры і Ваяводскім асяродку анімацыі культуры. Многія справы вырашаем грамадскімі сіламі. Не плацім за рэжысуру, праект, аранжыроўку, а ганарары членам журы атрымоўваюцца зусім сімвалічныя. Калі параўнаць мерапрыемства „Białostockie malwy" і Фестываль царкоўнай музыкі, іх удзельнікаў, маштаб і амаль такія ж самыя фінансы, то можна сказаць, што наш фестываль робім танна, — расказвае дырэктар фестывалю.

**Гайнаўскае мерапрыемства мае шырокую публіку.**

Самую вялікую іх частку складаюць прыхаджане, жыхары горада і навакольных мясцовасцей. Фестываль прыцягвае таксама ўсіх сімпатыкаў царкоўнай музыкі з усяго свету. Зацікаўленне выказваюць таксама агульнавядомыя асобы публічнага жыцця. Арганізатары спадзяюцца, што ў Гайнаўку завітаюць: міністр культуры і мастацтва Казімеж Дэймэк, яго дарадца Роберт Панэк (музыколаг), віцэміністр Міхал Ягела, віцэ-прэм'ер Уладзімеж Цімашэвіч, слаўны кардыяхірург Збігнеў Рэліга. Частымі гасцямі бываюць паслы Беларусі, Украіны, Фінляндыі, Румыніі.

—Для нас усе госці роўныя, — кажа спадар Бушко.

**У поспеху многа бацькоў.**

На працягу 13 гадоў для фестывалю працавала многа людзей. Але цяжка ўявіць сабе гэтае мерапрыемства, не думаючы аб спадару Мікалаю Бушко. Гэта ён з'яўляецца аўтарам ідэі Фестывалю.

— Я — праваслаўны. Ужо ў дзяцінстве, калі наведваў царкву, быў заварожаны прыгажосцю царкоўнай музыкі. Гэта спрыяла глыбокаму заангажаванню ў арганізацыю фестывалю. Калі ў Гайнаўцы расла цудоўная фігура царквы, тады ўзнікла ідэя. У царкве унікальная акустыка. Да таго мяне назначылі дырэктарам Гайнаўскага дома культуры. Былі магчымасці дзеяння. Ад самага пачатку ў арганізацыю ўключыліся айцец Юрка Шурбак і айцец Міхась Негярэвіч. Пачаткі былі цяжкія. Пачыналі з парафіяльных хораў. Не было іх і так ужо шмат. Нягледзячы на цяжкасці і складанасці, ідэя фестывалю тут знайшла вельмі карыснае здзяйсненне. Цяпер Гайнаўка вядомая ва ўсім музычным свеце, — гаворыць Мікалай Бушко.

**Арганізатары свядомыя недасканаласцей.**

У Гайнаўцы няма дастатковай колькасці начлежных месц. Сталай базай з'яўляецца гасцініца ў Бандарах (400 месц). Белавежскія гатэлі ў час фестывалю перажываюць свае найлепшыя дні ў годзе. Маса там замежных турыстаў.

— Маем праблемы з кіраўніцтвам „Івы". Калі звонім ад імя арганізатараў — месц няма, а калі звонім як прыватныя асобы — месцы ёсць, — прызнаюцца арганізатары.

Бываюць непрадбачаныя сітуацыі. Здараецца, што нейкі хор прыязджае на дзень раней, чым планавалася. Месцы ў гасцініцах ужо так забраніраваны, што няма практычна дадатковых магчымасцей закватаравацца. У Гайнаўцы няма рэстарана, які змог бы абслужыць усіх удзельнікаў. Арганізатары выкарыстоўваюць сталовую фірмы „Furnel".

— Можна было б чакаць большай увагі з боку беластоцкай прэсы і радыё.

**Таксама некаторыя дзеячы хацелі б фестываль направіць у рэчышча нацыянальнай меншасці.**

Без сумненняў гавару, што фестываль мае столькі супольнага з беларускай меншасцю што: арганізуецца на арэале, дзе жыве беларуская меншасць, і што вяду яго я — беларус, — паясняе спадар Бушко.

Фестываль мае шырэйшы абсяг. Адрасаваны ён усім культурным людзям усяго свету. Недарэчнасцю з'яўляецца сцвярджэнне, што фінансы для фестывалю, гэта таксама датацыя для беларускай меншасці.

**Жыхары Гайнаўкі па-рознаму ўспрымалі слова „царкоўная" музыка.**

Апытаныя мною ў сваёй большасці (8 чалавек) вельмі хвалілі „свой" фестываль і асобу Мікалая Бушко. Дзве жанчыны пры нагодзе заявілі, што яны „беларусінкі" і што для іх Фестываль царкоўнай музыкі — гэта свайго роду нацыянальнае свята. Чатыры асобы адказалі дыпламатычна: „Нічога аб Фестывалі царкоўнай музыкі не чулі".

**ГАННА КАНДРАЦЮК**

P. S. Арганізатары паведамляюць нумар банкаўскага рахунку фестывалю: MFMC, PBK S.A. Hajnówka, 370422-589-139-11 і звяртаюцца з просьбай падтрымаць фінансава адзінае, такога роду, мерапрыемства ў свеце.

# ЗА НАМІ ТОЛЬКІ БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Сітуацыя нацыянальных меншасцяў у Польшчы апошнім часам робіцца штораз больш складанай. На падтрымку культуры і выдавецкай дзейнасці ўрад выдзяліў парадаксальна малыя сродкі, якія і хаця не дазволяць раптоўна знікнуць гэтым праявам актыўнасці непалякаў, але таксама і не ствараюць ніякай надзеі на захаванне існуючага стану.

З 1989 г. атмасфера вакол нацыянальных меншасцяў рашуча змянілася. На пачатку дзевяностых гадоў шмат асоб пры ўладзе сур'ёзна думалі пра вырашэнне гэтых праблемаў паводле еўрапейскіх прынцыпаў, а нават былі спробы ажыццяўлення падпісаных Польшчай міждзяржаўных трактатаў і пагадненняў. Гэтая хваля зацікаўлення еўрапеізацыяй палітычных звычаяў ужо адплыла. Ніводная партыя, якая шукае падтрымкі выбаршчыкаў у Беластоку, не можа нават адкрыта заявіць, што меншасці — грамадзяне Польшчы — павінны мець усе чалавечыя і палітычныя правы, якімі карыстаюцца палякі. І гэта зразумела, бо такі крок быў бы палітычным самагубствам. Наадварот, папулярным становіцца лозунг: „Польшчай павінны кіраваць палякі". Пераклад яго зместу на беластоцкую рэчаіснасць абазначае, што нават ваяводскім ураднікам не можа стаць прадстаўнік нацыянальнай меншасці, аб чым адкрыта заявіў высокі ўраднік, актывіст адной з кіруючых партый.

Дэманстрацыя крайніх формаў патрыятызму сталася ўжо звычаем палітыкаў, якія добра адчуваюць настроі грамадства. Эканамічны крызіс будзе толькі паглыбляць гэты стан, а заўсёды хтосьці захоча выкарыстаць расчараванне пазбаўленых працы і матэрыяльных сродкаў людзей. У такой сітуацыі меншасцям ніколі не рабілася лягчэй. Інцыдэнт ад 10 сакавіка з салідарнікамі пераканаў мяне дастаткова, як лёгка — калі хто захоча — тут, на Беласточчыне, выклікаць шавіністычную істэрыку, выкарыстоўваючы найпрымітыўнейшыя, але добра спрактыкаваныя метады правакацыі. Няма ў найбліжэйшым часе перспектываў змены існуючай эканамічнай і грамадскай сітуацыі, няма затым шанцаў на нармалізацыю атмасферы вакол нацыянальных меншасцяў. Нягледзячы на тое, як хто глыбока будзе хаваць галаву ў пясок, і так астанецца падазроным, якому нельга давяраць нават як лакальнаму ўрадніку. На кожнае патрабаванне трактаваць нацыянальныя меншасці паводле канстытуцыйных прынцыпаў роўнасці грамадзян, трэба спадзявацца штораз часцей адказу, што гэта праява нерэальных для рэалізацыі пажаданняў.

Сітуацыя беларусаў настолькі горшая ад іншых меншасцяў, што сярод нас заўсёды знойдуцца „дзеячы", якія заявяць, што нам нічога не трэба, што маем усё, а нават яшчэ больш. Кожнае патрабаванне, нават у галіне асветы ці культуры, назавуць „праявай нацыяналізму". Нацыянальны нігілізм „нашых хлопцаў" іншыя выкарыстоўваюць з поўным цынізмам. Таму ў апошніх гадах, калі сярод немцаў, літоўцаў, украінцаў, славакаў узрастала колькасць школ і вучняў, карыстаючыхся роднай мовай, сярод беларусаў працэс пайшоў у адваротным напрамку, на спад.

Беларускі паўвостраў на Беласточчыне будзе далей затапляцца, калі менавіта не наступіць адраджэнне школьніцтва. Навучанне на роднай мове так доўга будзе малаэфектыўнай дзейнасцю, якая не пакідае пасля ніякіх слядоў, пакуль абмяжоўвацца яно будзе да вывучэння добраахвотнікамі граматыкі і архаічнай, з пункту гледжання дзяцей і моладзі, літаратуры. Беларуская мова толькі тады стане паўнацэннай, калі трактавацца будзе як польская, а настаўнікі пачнуць вучням на ёй гаварыць пра мастацтва, музыку, сусветную літаратуру, гісторыю, матэматыку і г.д. Але да гэтага патрэбныя вышэйшыя навуковыя ўстановы, якія падрыхтавалі б адпаведныя настаўніцкія кадры. І тут круг замыкаецца. Каб пачаць вучыць настаўнікаў, патрэбныя адпаведныя вырашэнні на дзяржаўным узроўні, чаго ў гэты час цяжка спадзявацца. З увагі на маланкавы працэс паланізацыі беларускага грамадства Беласточчыны, справа праўдападобна ў недалёкай будучыні вырашыцца сама. Праз пару гадоў не будзе ані каму вучыць, ані каго вучыць. Існуе рэальная перспектыва, што беларускасць абмяжуецца неўзабаве да некалькіх соцень ідэалістаў з прэтэнзіямі да цэлага свету, а адзіным месцам, дзе свабодна будзе можна гаварыць па-беларуску, стане Белавежская пушча.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

# ЗАТОПЛЕНЫ АМФІТЭАТР

Бяда здарылася з вядомым ад часоў фестываляў польскай песні віцебскім амфітэатрам. У сярэдзіне красавіка ён і частка акаляючай тэрыторыі апынуліся пад метровым слоем вады.

Паводка на рэчцы Віцьбе і ручай, што ўпадае ў яе, выклікалі падняцце грунтавай вады, якая і заліла нізіну, дзе месціцца ці не апошняе вялікае сведчанне колішняй „польска-савецкай дружбы". Месціцца, між іншым, там, дзе ў старажытнасці ніякія будоўлі не ўсчыняліся: тут калісьці працякаў ручай дый з-за паводак усталёўвацца надоўга не варта было.

Сёлетні ўздым вады на Дзвіне здзіўляе многіх, бо рэдка хто на сваім вяку бачыў, каб гэтая рака паднялася болей, чым да дзевяці метраў. Апошняе здарэнне такога кшталту было 63 гады таму!

Разліліся і дзве іншыя рэчкі, што цякуць у горадзе. З шырынёй Дзвіны можна было параўнаць дзе-нідзе паводку на Лучосе, якая таксама падтапіла некалькі будынкаў. Віцьба закрыла шматметровым слоем вялікую частку аднаго з папулярных у Віцебску паркаў.

Але вернемся да амфітэатра. Нават калі б не было бедства, то яго ўсё роўна неўзабаве, пэўна, чакаў рамонт (прынамсі, касметычны): зляпаны шэсць гадкоў назад „аб'ект" пачынае разбурацца.

**ЮРАСЬ СЦЯПАНАЎ**

# Зорка
## Старонка для дзяцей

*АЛЕГ ЛОЙКА*

### ВЯСЁЛЫ АГАРОД
*(працяг з папярэдняга нумара)*

**ХРЭН**

Без чаго пры поўнай місе
Мяса ты не наясіся,
Як ні еш, не кракганеш,
Хаця тыдзень цэлы еш
У дзве змены, у тры змены,
Ды не тое, як без хрэну, —
Корань белы, ліст зялёны,
Вітамінам блаславулёны!..

**РАСАДА**

У парніках я. Я — расада.
Высадзяць мяне на грады.
Флянцамі па лунках сяду,
Ітады я — не расада.

Хлопцы рады, дзеўкі рады:
Паліваюць дружна грады.

Дзе насілі ваду сітам, —
Анічога не паліта.

І хто рэшатам насіў, —
Анічога не паліў.

А хто з поўнага вядзерца,
Там паліта ўсё ад сэрца...

**КАПУСТА**

Хочаш — гладзіш па галоўцы,
Паказычваеш бачок...
Высякуць пад корань хлопцы,
Вышаткуюць у бачок.

Сок капусны, хлеба луста,—
На ўвесь край, як шпак, спявай:
„Я люблю цябе, капуста,
Ад капусты блізка ў рай,

Ад капусты — дзеўкі тлусты,
У капусту дзевак шлі!..”
Рады я, што між капусты
І мяне калісь знайшлі!..

*(працяг у наступным нумары)*



*У дзеда з бабай.* **Фота Г. Кандрацюк**

## ЧОРТ

Чорт, як чапля, чапаў у чароце. Ча-ча-ча — чвякалі чортавы чаравікі. Бачыць: чыйсьці чорны човен. Чорт — у човен. А з чароту:

— Чыгі-чыгі, не чапай чужога чоўна.

— Чый, чый човен? — зачхаў ад нечаканасці чорт.

— Гэта човен чалавека Чэся — зачыгікала чайка.

Чорт пачухаў чуб:

— Дзе чалавек? Чаму прычапіў човен у чароце?

— Чэсь рве чарадзейную чарамшу.

Чорт часта зачмыхаў:

— Чэсь нішчыць чарамшу, якая занесена ў Чырвоную кнігу?! Апчхі, чортаў чалавек!..

Чорт чароўнай чарацінкай начыркаў на чаўне чатыры **Ч**.

— Чыгі-Чыгі, прачытай, — клянчыла чайка.

Чорт зачаўкаў:

— „Чэ... Чэ... Чэ... Чэ...” — човен чалавечага чорта Чэся...

Чорт чмякнуўся ў човен. Плыў па рэчцы, гучна крычаў:

— Чэсь, не чакай чаўна, начуй у чортавым балоце!..

Над чаротам трывожна чыгікала чайка.

**УЛАДЗІМІР ЛІПСКІ**

*Вершы Віктара Шведа*

**НА ЎРОКУ ФІЗІКІ**

У кабінеце фізічным
Настаўнік просіць: — Падай, Том,
Нам розніцу між электрычным
І сонечным святлом.

Вучань на гэта: — Святло з неба
Дарэмна акурат.
За электрычнасць плаціць трэба,
І нават вельмі шмат!

**НАЙТАННЕЙШЫ ЦВІК**

Пабег раніцай Марцін
У вясковы магазін.
— Мама ў хаце мне казала
Купіць вешалку з метала.

Мусіць быць недарагая,
Грошыкаў нямнога маю.
А на гэта працаўнік:
— Самы танны будзе цвік.

**МАМА НЕ ЗВАРЫЛА „ГАМАЦЬ”**

— Калі рашаеш, Ваня,
Дамашнія заданні?
— Я папаўняю веды
Заўжды пасля абеду.

— Якое ж табе гора
Рашыць не дало ўчора?
— Учора ж мая мама
Мне не зварыла „гамаць”.

**НЕ МАЕШ ДА ЛЮДЗЕЙ ПАШАНЫ**

— Да людзей цябе пашаны
Не навучылі ў школе!
Ты „добры вечар” і „дабранач”
Нам не сказаў ніколі!

— Гэтых зваротаў я не ведаў
Яшчэ дагэтуль, матка.
Заўсёды маем да абеду
Мы школьныя заняткі.

**ХАЦЕЎ БЫ БЫЦЬ ЖЫРАФАЙ**

Настаўнік сварыцца: — Марцін,
Прахвост ты ў школе, дома.
Кім быць ты хочаш у жыцці?
— Жырафаю, вядома.

— Чаму жырафай? — запытаць
Я са здзіўленнем мушу.
— Не мог бы ўжо тады цягаць
Ніхто мяне за вушы.

## ЗЯЗЮЛЯ ДЗЕТАК ШУКАЛА
*Казка*

Нізка над полем абвіслі цёмныя хмары. Вуркатаў гром. На ўскрайку лесу вецер зрываў з бярозак жоўтае лісце, ірваў тонкія павуцінкі.

„Змокну я тут, як навальніца пачнецца”, — падумала зязюля і паляцела ў гушчыню лесу.

Доўга ці мала ляцела зязюля, аж сустрэла на сваім шляху прыгажуна белабровіка. Жывоцік у гэтага дразда белы з бурымі стракацінамі, а над вочкамі шырокія вохрыста-белыя бровы.

— Куды ляціш, зязюля? — пытае белабровік.

— Дык і ты во ляціш некуды, — адгукнулася тая.

— Я па справе. Дразда-дзярабу ў госці клікаў. У вырай хутка, дык чаму і не сабрацца разам перад дарогай? І цябе, зязюля, запрашаю.

— Дзякуй, белабровік. Я палячу з табой, — радасна пагадзілася зязюля.

Прыляцелі яны на светлую палянку, непадалёк ад якой стаяў каржакаваты дуб. Ля дуба чыстая крынічка бруілася.

— Вось тут я жыву, — сказаў белабровік. — Ты, зязюля, знаёмся з гасцямі, а я зараз буду вас пірагом частаваць.

Зграбная берасцянка спаважна кіўнула зязюльцы блакітнай галоўкай і павяла яе знаёміць са сваімі дочкамі — чатырма жвавымі маладзенькімі берасцяначкамі.

Завіталі ў госці да белабровіка са сваімі дзеткамі і канаплянка, і зелянушка, і сіваграк. Толькі фанабэрысты ўдод адзін прыляцеў.

З усімі гасцямі пазнаёмілася зязюля. Хораша, весела было сярод іх!

Хутка на палянку апусціўся з сынамі дрозд-дзяраба і адразу ж пачаў дапамагаць гаспадару засцілаць белым настольнікам шырокі дубовы стол. На чысты настольнік белабровік паклаў вялікі пірог з брусніцамі.

— Частуйцеся, госцейкі, будзьце як дома. Адзін з'еш хоць вала — адна хвала. Частуйцеся, усім хопіць.

Першымі па ладнаму кавалку пірага атрымалі берасцянкі. Не пакрыўдзіў гаспадар і другіх гасцей.

—Ой, які духмяны, які смачны пірог! — радавалася маладзенькая шэра-зялёная зелянушка.

— Праўду гаворыш, сястрыца, такога пірага мы таксама ніколі не каштавалі, — падтрымалі зелянушку канаплянкі.

Госці ласаваліся пірагом і запівалі яго чыстай вадзіцай з крыніцы. А потым на палянцы ўсчаўся канцэрт. Госці разам з гаспадаром-белабровікам рашылі так: кожнаму сямейству пець па чарзе, каб потым вызначыць самых лепшых і галасістых артыстаў.

Берасцяначкі запелі першымі.

— Ф'іт-ф'іт-ля-ля-ві-чыў-кік, — звінела, як вясною, прыгожая песня птушак.

Зладжана пяюць берасцяначкі, як па нотах!

— Чжый-чжый-чжый, — стараліся адна перад адной зелянушкі.

— Тк-тк-тк, — шчабяталі канаплянкі.

Удод пець наадрэз адмовіўся. Сказаў, што як ляцеў сюды, то напіўся з крыніцы халоднай вадзіцы і ахрып.

Скончыў пець дзяраба са сваімі сынамі, падышла зязюльчына чарга.

— Сястрыца, а дзе ж твае дачушкі? — запытала ў зязюлі зелянушка.

— І праўда, зязюля, чаму дачок з сабою не ўзяла? — дадаў дзяраба.

Зязюля зніякавела, не ведала, што і адказаць.

— Такой бяды, хай адна кукуе, — заступіліся за яе канаплянкі.

— Не, адна кукаваць не буду, — не згаджалася зязюля. — Вы пачакайце крыху, а я палячу дзетак пашукаю. Мы хуценька вернемся.

Узмахнула крыламі зязюля і паляцела. Прыляцела да малінаўкі, паглядзела на пустое гняздо і пытаецца:

— Скажы, малінаўка, дзе мае дзеці падзяваліся? Я ж вясною ў гэта гняздэчка чатыры яечкі паклала.

Малінаўка здзівілася няпрошанай госці і гаворыць:

— Гэта маё гняздо, зязюля. Якая ж ты маці, калі нічога пра сваіх дзетак не ведаеш?

Сорамна стала зязюлі. Нічога не сказала яна малінаўцы. Толькі ўзмахнула і далей паляцела.

Доўга ці мала ляцела зязюля, аж сустрэла прыгожую птушачку: на маленькай беленькай галоўцы чорная шапачка, хвосцік у птушкі доўгі і таксама чорны, спінка шэрая, а жывоцік белы.

— Гэта ж белая сітаўка! — пазнала птушку зязюля і ўспомніла, што і ў яе гняздо тры яечкі падклала.

Спытала зязюля ў белай сітаўкі пра сваіх дзетак, а тая і гаворыць ёй:

— Мае дзеткі, дзякуй Богу, жывыя і здаровыя. Заўтра ў вырай адлятаем, а пра тваіх, зязюля, нічога сказаць не магу.

Кульнулася з галінкі зязюля і далей паляцела. Адшукала ў лесе шэрую мухалоўку, але і яна нічым не дапамагла.

Ад мухалоўкі паляцела зязюля да перасмешкі. Расказала ёй зязюля пра сваё гора-бяду, а тая ўважліва выслухала яе ды гаворыць:

— Нядаўна бачыла: праляталі тут тры маладзенькія зязюлі. Але ж ці прызнаюць яны цябе?

Хутка і цямнець пачало. Зусім змарконела зязюля, ледзьве крыламі махае, а дзетак сваіх так і не знайшла. Усе госці дамоў разляцеліся, а зязюля і па сённяшні дзень адна кукуе.

**ІВАН ГАЛУБОВІЧ**

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

## 26

*(працяг з папярэдняга нумара)*

### Анаграмы

Анаграма — вершаваная моўная загадка, у якой памяняўшы месцамі літары аднаго слова, трэба атрымаць другое, з іншым значэннем. Абодва словы трэба ўгадаць. Вось прыклады:

1. Амаль у кожнай тваёй страве
Ці на стале мне трэба быць.
Інакш мне літары паставіш —
Адразу ў лес ён пабяжыць.

2. Я — птушка, лятаць я гатова,
Але буду у полі расці,
Як зможаш у новае слова
Мае літары ты размясціць.

3. Я ў лесе расту, у бары у густым,
А бываю і смачнаю стравай.
Памяняй мае літары месцамі ты —
Калісьці па моры я плаваў.

4. Даю я ў спёку цень табе,
Мяне ты летам часта хваліш.
Парадак літар памяняй —
І цэлы лес ты мною зваліш.

5. Ляжу заўсёды на зямлі,
Трымаю на сабе жалеза.
Тры месцы літарам змяні —
Тады ў каструлю я палезу.

6. Кусаю я людзей, скаціну,
Звіню над вухам надта нудна.
Паставіш *р* у серадзіну —
Мяне ты зробіш часткай судна.
Парадак літарам змяніць —
На судне буду я служыць.

Адгадайце зашыфраваныя словы.

### Метаграмы

Гэта граматычная гульня-загадка, заснаваная на змене літары на іншую. Каб яе адгадаць, неабходна ўказаную літару замяніць таксама ўказанай (іншы раз другая можа не называцца). У выніку атрымліваецца новае слова, напрыклад ліса — *ліст*.

Звярок я рыжанькі лясны,
У казках, байках я бываю,
Адну мне літару змяні —
Я ўвосень з дрэва ападаю.

Адгадайце наступныя метаграмы:

1. Ты пра мяне чытаў, напэўна,
Я — казкі Пушкіна герой.
Калі ты *л* на *н* заменіш —
Сібірскай буду я ракой.

2. Я — з казкі Пушкіна, я там
Папа перамагаю.
Калі заменіш *л* на *н*,
То я — бандытаў зграя.

3. Я з *к* цяку між берагоў,
На карце ты мяне пабачыш.
А з *с*, хаця і без зубоў,
Як укушу — заплачаш!

4. Я — жаночае імя,
Прыгожае такое.
Замяні мне *з* на *н* —
І пацяку ракою.

5. У лесе з *б* мяне шукаеш
І з прыемнасцю зразаеш.
Калі *б* на *п* заменіш —
Сцеражыся: захварэеш!

6. У моры з *с* мяне шукаюць,
Затым са смакам спажываюць.
Змяніце *с* на *г* ў мяне —
І я павісну на акне.

7. З *ф* — у шашках; з *г* — у песні;
З *л* у спорце; з *б* — у лесе;
З *с* — на дрэве я расту;
З *ж* — паўзу я па лісту.

8. З *т* — да вадкасцей прывык.
З *з* — паўднёвы дзікі бык.

9. Каб адгадаць мяне, трэба цярплівасць;
З *л* — частка твару, а з *б я* — расліна.

10. Ён з *д* на кусце і на дрэве быць можа,
А з *т* ён — драўляная агароджа.

11. Я з *г* прымету такую маю:
Вясной і летам залёным бываю;
А з *к* — адгадайце, што я такое:
Цяпер — забава, калісьці — зброя.

12. З *б* — на муку я тваю:
З *м* — я футры папсую;
З *т* — дамы я пакрываю;
З *с* у страве я бываю.

13. З *ч* над морам пралятаю,
З *г* ў машыне я бываю,
З *м* мяне ты надзяваў,
З *л* — сабаку называў.

14. Белы ўзімку, шэры летам —
Вось табе мае прыметы.
*З* на *с* змяніць патрэбна,
Каб прадуктам быць мне хлебным.

15. Я маю сцены і куты,
Усё жыццё служу табе.
Мне *о* на *ы* заменіш ты —
Тады шукай мяне ў трубе.

16. Мяне заўсёды ты сустрэнеш
У моры Арктыкі халодным.
Калі мне *р* на *г* заменіш,
Дык танцам буду я народным.

17. Я не яблык і не сліва,
А другі духмяны плод.
Хочаш ты, каб я залівам
На рацэ зрабіцца змог?
Трэба — толькі і ўсяго —
*А* паставіць замест *о*.

18. З *к* шукай мяне ты ў полі,
З *г* — пачуеш на раздоллі,
А калі падставіш *в*,
Дык шукай на галаве.

19. З *в* гані мяне ты ў поле,
З *м* я ў моры, з *г* — ў футболе,
З *к* — ўбіваюць, з *т* — ўзрываюць,
З *д* — даліну называюць.

20. Я ў Амерыцы дзяржава,
Блізкі сябар нам па праву.
Зменіш *б* на *р* — адразу
Ракой імчуся па Каўказу.

21. З *л* — інструмент я, прылада;
З *д я* — вялікая хата;
З *с* — мяне ловіць рыбак;
З *к я* — вялікі камяк;
З *т* — мяне, пэўна, чытаў.
Хто я такі— адгадаў?

Ва ўсіх папярэдніх метаграмах дзейнічаюць літары — іх трэба называць *бэ*, *вэ* і г. д. Ёсць метаграмы, у якіх дзейнічаюць гукі:

22. З глухім траву яна зразае,
Са звонкім — лісце аб'ядае.

23. З глухім я круглы, нібы мячык,
Са звонкім — як агонь, гарачы.

*(Працяг у наступным нумары)*

<u>БЕЛАРУСКІЯ ГУЛЬНІ</u>

# КАЗЁЛ

Дзеці бяруцца за рукі і ўтвараюць кола. Адзін з удзельнікаў у сярэдзіне. Усе вядуць карагод і спяваюць, словы прыпеву дэманструюцца адпаведнымі рухамі.

— Пакажы, казелінька,
Павітай, казелінька,
Як бабушкі скачуць?

— Вось і так,
Так і гэтак,
Так бабушкі скачуць.

— Пакажы, казелінька,
Павітай, казелінька,
Як мужчынкі скачуць?

— Вось і так,
Так і гэтак,
Так мужчынкі скачуць.

— Пакажы, казелінька,
Павітай, казелінька,
Як дзевачкі скачуць?

— Вось і так,
Так і гэтак,
Так дзевачкі скачуць.

— Пакажы, казелінька,
Павітай, казелінька,
Як хлопчыкі скачуць?

— Вось і так,
Так і гэтак,
Так хлопчыкі скачуць.

— Пакажы, казелінька,
Павітай, казелінька,
Як казёл скача?

— Вось і так,
Так і гэтак,
Так казёл скача.

♩=96

Па - ка - жы, ка - зе - лінь - ка, па - ві - тай,
ка - зе - лінь - ка, як ба - буш - кі ска - чуць?
Вось і так, так і гэ - так, так ба - буш - кі ска - чуць.

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Том рабіў хатнюю пісьмовую работу па фізіцы. Падышоўшы да дзвярэй ваннай, дзе мыецца бацька, ён спытаўся:

— Тата! Што адбываецца з целам, якое апушчана ў ваду?

— Вядомая справа, варта толькі цела пагрузіцца ў ваду, якраз у той момант, калі яго абавязкова клічуць да тэлефона...

* * *

Вучань у час летняй практыкі атрымаў заданне пафарбаваць вокны ў класе. Калі работа была выканана, ён пазваніў настаўніку і дакладвае:

— Вокны пафарбаваны. Ці трэба яшчэ фарбаваць і рамы?

* * *

— Саша, назаві істоту, якая пастаянна ходзіць з сумкай.

— Мая бабуля.

* * *

Тэлефонны званок у пункце „хуткай дапамогі”.

— Доктар, наш сын праглынуў патрон ад мелкакаліберная вінтоўкі! Што нам рабіць?

— Захоўвайце спакой, зараз жа выязджаем. І ні ў якім выпадку не біце яго!

* * *

— Унучак, што табе падарыць на дзень нараджэння?

— Ключы ад буфета, дзе ты хаваеш варэнне.

ВАЛЕРЫ БАБЕЙ

<u>З гісторыі Беларусі</u>

# БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ У ВІЛЬНІ

З 1921 года і да канца Другой сусветнай вайны ў Вільні, тагачасным культурным цэнтры Заходняй Беларусі, існаваў Беларускі музей, ці, афіцыйна, Віленскі беларускі гісторыка-этнаграфічны музей імя Івана Луцкевіча. Ён быў заснаваны на базе калекцыі выдатнага грамадскага дзеяча, аднаго з пачынальнікаў беларускага адраджэнскага руху пачатку стагоддзя, аднаго з заснавальнікаў першых беларускіх легальных газет „Наша доля” і „Наша ніва” — Івана Луцкевіча. Размяшчаўся музей у старой частцы горада, у Базыльянскіх мурах, побач са слыннай беларускай гімназіяй. На працягу свайго існавання калекцыі музея істотна папаўняліся.

З археалагічных знаходак тут былі рэчы каменнага веку, каменныя сякеры, пасудзіны з курганоў, пярсцёнкі з пячаткамі полацкіх князёў Усяслава і Барыса, аднаго са смаленскіх князёў XIV стагоддзя, пячатка Міндоўга, іншыя матэрыялы з раскопак у Беларусі. У Музеі была таксама значная калекцыя манет, старых медных крыжоў (ад XI ст.), сярод іх амулет — „змеявік”. Аддзел старадаўняй зброі быў прадстаўлены панцырам ваяра, часткай панцыра на каня, кальчугамі, крыжацкім мячом, узбраеннем беларускіх сялян, іншымі ўзорамі халоднай і агністрэльнай зброі. У сфрагістычнай калекцыі налічвалася 103 пячаткі розных часоў. Сярод калекцыі кніг і грамат былі такія каштоўныя экспанаты, як Наваградскае Евангелле XIV стагоддзя, рукапісныя кнігі XVI стагоддзя, Аль-Кітаб, цэлы шэраг грамат вялікіх князёў літоўскіх, каралёў Рэчы Паспалітай, свецкіх і царкоўных феадалаў, рэдкія старадрукі — Трыёдзь каляровая 1491 года Швайпольта Фіёля, частка пражскага выдання Біблії Францыска Скарыны, Статут Вялікага княства Літоўскага 1588 года з друкарні Мамонічаў, „Часаслоў” Івана Фёдарава, трэбнік Жыровіцкай царквы 1545 года, кнігі XVI—XVIII стагоддзяў з друкарняў у Куцейне, Еўі, Вільні, Супраслі, Лоску, Сямяцічах, Нясвіжы, Слуцку, Полацку, Гродне, Магілёве. Захоўваліся беларускія выданні XIX стагоддзя, камплекты „Нашай долі” і „Нашай нівы”.

У аддзеле беларускага народнага мастацтва была прадстаўлена разьба па дрэве, лубкі, карціны Францішка Смуглевіча, Яна Рустэма, Івана Трутнева, Юзафа Пешкі, Карла Брулова, Пётры Сергіевіча, Язэпа Драздовіча і іншых, народныя музычныя інструменты, гравюры, старадаўняе адзенне, калекцыя слуцкіх паясоў. У аддзеле начыння захоўваўся віленскі фаянс, урэцкае шкло, галаснікі Каложскай царквы ў Гродне, іншыя ўзоры старадаўняга і сучаснага посуду. Меўся сцяг паўстанцаў Лідскага павета (1863 г.). У бібліятэцы музея налічвалася больш за 14 тысяч тамоў. Пры музеі існаваў багаты беларускі архіў.

Беларускі музей у Вільні як адзінае цэлае быў ліквідаваны ў чэрвені 1945 года, калекцыі падзелены паміж шэрагам музеяў, архіваў і бібліятэк.

ЭДВАРД ЗАЙКОЎСКІ

**Адгаданка „Падарожжа”**

**Анаграмы.** 1. Соль — лось. 2. Сокал — колас. 3. Грыб — брыг. 4. Ліпа — піла. 5. Шпала — лапша. 6.Камар — карма — марак.

**Метаграмы.** 1. Елісей — Енісей. 2. Балда — банда. 3. Ака — аса. 4. Роза — Рона. 5. Грыб — грып. 6. Сардзіна — гардзіна, 7. Фук — гук — лук — сук — жук. 8. Бітон — бізон. 9. Лоб — боб. 10. Плод — плот. 11. Луг — лук. 12. Боль — моль — толь — соль. 13. Чайка — гайка — майка — лайка. 14. Зайка — сайка. 15. Дом — дым. 16. Рапак — гапак. 17. Лімон — ліман. 18. Колас — голас — волас. 19. Вол — мол — кол — тол — дол. 20. Куба — Кура. 21. Лом — дом — сом — ком — том. 22. Каса — каза. 23. Шар — жар.

**ВІТАЛЬ ЛУБА**

# ЛЁС АЙЧЫНЫ — ЛЁС ЧАЛАВЕКА *)

Абедзве кніжкі Сакрата Яновіча *Даліна поўная лёсу* і *Тэра інкогніта: Беларусь* аб'ядноўвае адзін матыў — матыў айчыны: і той малой, і той вялікай, і той духовай у нашым выпадку. Аўтар асаблівую ўвагу адводзіць малой айчыне, вызначэнню яе сутнасці, падмацаванню тэарэтычных разважанняў вобразамі перажытага ды выцякаючаму з гэтага стаўлення да духовай і вялікай айчын.

Першая кніжка (*Даліна поўная лёсу*) — гэта аўтабіяграфічнае апісанне той жа малой айчыны — Крынак, распаложаных у, вынесенай у загаловак, даліне: іх ваенная і пасляваенная гісторыя, вызначана лёсам мясцовага насельніцтва.

Другая кніжка (*Тэра інкогніта: Беларусь*) — змяшчае чатыры эсэ і адно апавяданне. Першыя тры эсэ трактуюць аб гісторыі духовай айчыны: Беларусі — аб яе старажытным мінулым у гістарычнамоўным аспекце, аб яе сувязі з Польшчай на працягу вякоў (пачынаючы з часоў Баляслава Хробрага, а на Рыжскім дагаворы канчаючы) і аб канфесіях у Беларусі, а менавіта аб шматвяковым канфлікце паміж першасным на гэтай тэрыторыі праваслаўем і рымскім каталіцызмам ды аб перыядах уніяцтва і рэфармацыі. Чацвёртае эсэ *Тэры*... прысвечанае малой айчыне менавіта, якую аўтар атаясамлівае з найперш запамятанымі вобразамі, якія пашыраюцца разам з юначым даспяваннем. Няма малой айчыны без вялікай. Гэтая першая — першапачатковая — дастаецца на заўсёды, разам з месцам нараджэння, другая — вызначаецца ідэалагічнымі прынцыпамі і асацыюецца з дзяржаўнай прыналежнасцю, а яна ў жыцці аўтара мянялася чатыры разы. Быў ён грамадзянінам, ці жыхарам, II Рэчыпаспалітай, Савецкага Саюза, III Рэйха і зноў Польшчы.

У нашых умовах польскае грамадзянства — справа больш складаная, чым у карэнных палякаў, паколькі да нацыянальнага аспекту дабаўляецца і канфесійны — праваслаўнае веравызнанне, што ў выніку выклікае ў большасці прадстаўнікоў беларускай нацыянальнай меншасці комплексы непаўнацэннасці і плебейства.

У эсэ *Мая малая айчына* аўтар аналізуе нацыянальную сітуацыю ў сваіх Крынках у ваенны перыяд, калі ў выніку акупацыі стварыўся беларуска-руска-польска-нямецкі кангламерат з украінскімі дадаткамі, з ліквідаваным матэрыяльна, але прысутным тады ў духовай сферы яўрэйскім кампанентам. Такая нацыянальная разнастайнасць паўплывала на моўную сітуацыю, на свайго роду спецыялізацыю моў, калі паасобныя мовы па-рознаму выкарыстоўваліся ў канкрэтных сітуацыях: беларуская — у штодзённым побыце, руская — у царкве, польская — каб паказаць сябе больш культурным, у вонкавых кантактах, нямецкая — у справаводстве і ў дачыненнях з акупацыйнымі ўладамі, украінская — для анекдотаў. У такіх умовах фармаваўся вобраз айчыны, якую для аўтара састаўлялі: *дом, маці, бацька, брат, цёткі, дзядзькі, гумно, сабака, куры, авечкі, карова, нівы, луг, царква, вяселлі, хрэсьбіны, хаўтуры, сябры (а потым і сяброўкі), вечарыны, гульні на выгане, фальклорныя жахі*. Але ніколі айчына не асацыявалася яму з камендатурай паліцыі, школай ці нейкай урадавай установай, якія экспанавалі іншую, ад малой, айчыну, прынесеную разам з войскам.

З гадамі, з юначым сталеннем з'явілася ў жыцці аўтара ідэалагічная, дзяржаўная айчына, якая выхапіла з Крынак не толькі будучага пісьменніка, але на працягу саракавых і ў пачатку пяцідзесятых гадоў спустошыла ягоную родную мясцовасць. Міграцыя моладзі з вёсак у гарады, якая тады пачалася і працягваецца да гэтай пары, выклікала павелічэнне насельніцтва Беластока да такой ступені, што жыве цяпер у ім амаль кожны другі жыхар Беласточчыны.

Аб гэтым, што дзеялася ў малой яновічаўскай айчыне ў ваенны і пасляваенны час расказвае *Даліна*.... У лёсах яе жыхароў (а прадстаўлены даволі шырокі дыяпазон местачковых персанажаў) можна прасачыць суадносіны малой і вялікай айчын. Гэтая апошняя пачалася ў юнацтве аўтара з ліквідацыі беларускіх класаў у школе, з настаўніка, які караў *русінкаў* за *рускія разгаворы*, з дзейнасці мясцовага пробашча, які намагаўся *ўчлавечыць всходнё дзікосць* жыхароў мястэчка, што ў выніку давяло да замацавання падзелаў паміж *польскімі* і *рускімі* хлапчукамі, якія разам гулялі на выгане.

У юначыя гады, карпеючы над кніжкамі, вывучаючы глобус і карты, аўтар здзейсніў вялікае для сябе адкрыццё — са здзіўленнем даведаўся, што існуе Беларусь з граніцамі і сталіцай у Менску, і вельмі ўзрадаваўся тым, што ані ён, ані маці з бацькам, ані хто з сябрукоў, ніводзін дом, якім не страшна ксяндзоўская анафема, ужо не самотныя ў свеце. У іх жа ёсць духовая айчына — Беларусь — вялікая, большая за вёску, якая канчаецца за небасхілам.

Навука ў сярэдняй школе ў Беластоку, як піша аўтар, выклікала ў яго моцную тугу па Крынках і новае парадаксальнае адкрыццё: пражываючы ў малой айчыне, не любіш яе. Пачынаеш яе цаніць толькі тады, калі, апынуўшыся ў новым асяроддзі, трэба зважаць на сваю сялянскасць і беларускасць, якія, прынамсі ў пачатках, могуць быць крыніцай многіх стрэсаў. Майстар Міша з фабрыкі Сяржана павучае, што каб уладкавацца на працу, трэба быць палякам у 102%, падмацоўваючы сваё сцвярджэнне сентэнцыяй пра адсутнасць сумлення ў кашалька.

У гарады ўцякалі з вёсак дзеці бедных сялян, якія захавалі ў памяці сваё галоднае і халоднае дзяцінства. У першай фазе ўцёкаў з малой айчыны — крыніцы матэрыяльных пакутаў, галадранцы па яе не тужаць, але з часам прыходзіць наступная фаза — фаза міфалагізацыі яе, як краіны вечнага шчасця і дабрабыту. Заварожанасць малой айчынай, паводле аўтара, большая ў праваслаўных мігрантаў-беларусаў, чым у каталіцкіх палякаў. *Мая малая айчына*, — піша аўтар, — *гэта таксама сядзіба той часткі майго народа і веравызнання, якая ўваходзіць у састаў польскага грамадзянства і якая вырасла ў адну галіну; нешта накшталт аднаго пня яблыні, якая дае розныя плады... Такую бацькаўшчыну нельга дашчэнту забыць або насмерць замоўчыць*. І менавіта таму, з турботаў пра айчыны: малую, вялікую і духовую з'явіліся гэтыя і іншыя кніжкі Сакрата Яновіча, і, мабыць, гэтаму будуць прысвечаны чарговыя публікацыі.

Кніжку *Тэра*... завяршае апавяданне *З былога* на беларускай мове. Не апынулася яно ў зборніку выпадкова, але з'яўляецца дапаўненнем разважанняў з папярэдніх эсэ аб духовай і вялікай айчынах. У ім аўтар апісвае родныя Крынкі ў часе нямецкай акупацыі, у якіх паспытаў ён пакрысе ўсялякага светабачання: беларускага і расейскага, польскага і нямецкага, і з жыдоўскім судакрануўся ды нават пра татараў крушынянскіх пачуў. З заканчэннем вайны і адыходам чужых элементаў, людзі, не толькі ў Крынках, засталіся з трыма стэрэатыпамі, між якімі прыходзіцца ім выбіраць і цяпер: з беларускім, польскім і *рускім* — у нашым выпадку нечым неакрэсленым паміж *тутэйшасцю* і праваслаўнасцю.

Беларускамоўны акцэнт у польскай кніжцы, на маю думку, мае станоўчую рысу, прымаючы пад увагу і польскага чытача, якому будзе ён узорам беларускамоўнай літаратуры, і ўлічваючы польскамоўнага беластоцкага беларуса, якому нагадае аб кірылічным пісьменстве.

---

*) *Выступленне на семінары „Белавежы" ў Беластоку, 24 красавіка 1994 г.*

# ХАЙ ЛЯЦІЦЬ К ВАМ НАША ПЕСНЯ...

*Без роднай песні не можна,*
*Без роднай песні мы нямеем,*
*Песня — жыццёвы спадарожнік.*
*І наша радасць, і надзея.*

Гэтыя радкі складаюць першую страфу верша Віктара Шведа, прысвечанага гарадоцкаму мастацкаму калектыву, які 14 мая гэтага года адзначыць чарговы юбілей. Ідзе ўжо саракавы год з таго часу, калі жанчыны з Гарадка ўпершыню выступілі з песнямі перад публікай. Тады, у 1954 годзе пачыналі Ніна Мушынская, Ніна Цыванюк, Вольга Мядзведзева, Ірына Паўлючук, Надзея Парэмбская. Дэбют быў удалы, мабілізуючы. Потым былі далейшыя выступленні на ўсё лепшым і лепшым мастацкім узроўні. Спявалі яны польскія, рускія, украінскія і свае родныя беларускія песні. Выконвалі песні фальклорныя і абрадавыя ды складзеныя Нінай Мушынскай, якая была душой і кіраўніком гэтага калектыву. Дагэтуль пакінулі глыбокі след у памяці слухачоў вясёлыя, задзёрыстыя прыпеўкі — „гарадоцкія частушкі". Яны — яе аўтарства.

На працягу 40 гадоў існавання праз хор прайшло больш 200 чалавек, але цвёрдае ядро засталося. У 1967 годзе прыйшоў у калектыў таленавіты і адданы музыка Сцяпан Копа. Ён і зараз акампаніятар і музычны кіраўнік хору. Крыху пазней гарадоцкія жанчыны прыдбалі сабе яшчэ саліста Юрку Налівайку. Без гэтых двух мужчын цяжка было б сёння ўявіць сабе гэты калектыў.

Члены „Гарадка" могуць ганарыцца тым, што выступілі каля 1500 разоў, у тым ліку і за межамі Беластоцкага ваяводства, на цэнтральных дажынках, на міжнародным фестывалі моладзі і на Кафедры беларускай філалогіі ў Варшаве, а таксама былі некалькі разоў на гастролях за граніцай — на Гродзеншчыне. Жаночы хор удзельнічаў у шматлікіх песенных конкурсах і на фэстынах Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

І зараз актыўнасць хору не слабее. Не старэе яго любоў да песні. Ён далей нясе ў свет роднае слова, жывую беларускую песню, наш фальклор, нашу спадчыну. З нагоды ранейшага юбілею — 35 угодкаў — праф. Аляксандр Баршчэўскі пра хор з Гарадка сказаў: „Калі б БГКТ мела карону, то гэты калектыў свяціў бы ў ёй найлепшым брыльянтам". Застаецца дадаць, што на брыльянт гэты хор зарабіў напружанай уласнай працай.

Адкуль выводзіцца інспірацыя, дзе крыніцы творчай працы? Прывязанасць да сваёй зямлі, да ўзгоркаў і навакольных лясоў, спрыяльны грамадскі клімат былі натхненнем, а крыніцай — народная творчасць. Найстарэйшыя жанчыны з ахвотай прыпаміналі свае старадаўнія песні, а дзякуючы ўласным здольнасцям паўставалі слаўныя „гарадоцкія частушкі", у якіх заварожвалася і радасць жыцця і недахопы, якія яму спадарожнічаюць.

Слаўныя гарадоцкія жанчыны згодным хорам паўтараюць ужо 40 гадоў : „Гарадок традыцыі мае". Гэтак пачынаюцца адны частушкі, якія выйшлі з-пад пяра Ніны Мушынскай — чалавека вялікага мастацкага таленту і здольнага дзеяча культуры. А вось прывітальная песня гэтай жа аўтаркі:

*У сінім небе шлях ужо намечан*
*І прыходзіць к добрым людзям*
*Добры вечар!*
*Хай ляціць к вам наша песня на стрэчу —*
*І ўсім добрым людзям кажа:*
*Добры вечар!*

Прыпеў:

*У гарадах і на палях,*
*У нябёсах і на марах*
*Добры вечар!*
*Добры вечар!*
*Маладым і старым,*
*Незнаёмым і ўсім*
*Добры вечар!*
*Добры вечар!*

Цешыць тое, што Дом культуры ў Гарадку не стаіць пусты і глухі. Ён аказаўся тут прыдатным і стаў цэнтрам культурнай працы для ўсёй ваколіцы.

Няма немагчымага для гарадоцкіх харыстаў, якія пасля працы на мясцовай тэкстыльнай фабрыцы ці ў полі збіраюцца ў доме культуры на рэпетыцыю, на распрацоўку новай песні, ці ўвогуле новай праграмы для свайго хору.

Гарадок не здаецца. Пра мястэчка і ягоны хор нельга не гаварыць, ці мо дакладней, нельга не гаварыць добра. Заслужылі яны на гэта.

**ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ**



### ПАЖАДАННІ КАЛЕКТЫВУ З ГАРАДКА

З добрым днём! Песняры-юбіляры!
Пажаданні прыміце ад нас.
Няхай споўняцца ўсе Вашы мары!
Мы найлепшага жадаем для Вас!

Перш за ўсё каб здаровыя пелі,
Беларускі ўзмацнялі народ.
Каб Вы з песняй жылі-маладзелі,
Так як гэта было сорак год.

Расслаўляйце сваё асяроддзе,
Усхваляйце свой кут — Гарадок,
Пакажыце, што ў нашым народзе
Ёсць культуры багаты паток.

Вы спявайце ўсе дружнай сям'ёю,
Хаця цяжка для самых жанчын.
Будзьце ў згодзе са Сцёпам Капою,
Ён заменіць Вам многа мужчын.

З добрым днём, Песняры-юбіляры!
Праспявайце яшчэ многа лет!
Няхай споўняцца ўсе Вашы мары.
Вашы песні хай чуе ўвесь свет.

**ЯН ФЕДЗЮКЕВІЧ,**
**Баброўнікі**

*МІРА ЛУКША*

### РЭЧЫ НЕПАСПАЛІТЫЯ

Чуйныя рэчы з абвостраным слыхам
Моўчкі сукаюць ніць выпадковасці.
Крэсла здранцвелую ножку прастуе.
Стол ад абразы сцяўся сукамі.
Пячорным дыхам склеп адрыгнуўся.
Мяса з зубоў калупае відэлец.
Парог абціраецца з пылу абутку.

Ідзі ад рэчаў, бо выйдуць самі.
Выйдуць з іменаў, як з краявіду.

# КРЫЖ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

## II частка

Кажуць, што ў прыродзе нічога не гіне, хіба што змяняе форму або стан. Трэба яшчэ дадаць, што любыя каштоўнасці, ці то з прычыны мастацкай ці матэрыяльнай вартасці, вельмі часта змянялі ўласніка. Прага валодання каштоўным, дарагім, прыгожым прадметам была заўсёды нагэтульки вялікай, што рабаваліся не толькі прыватныя калекцыі і музеі, але і храмы. Нават цудадзейныя іконы Уладзімірскай, Пачаеўскай Божай Маці ды мноства іншых абразоў, не зважаючы на відавочнае святатацтва, неаднойчы былі прадметам крадзяжу, грабяжу або захопу ў якасці ваеннай здабычы. Мікалай Патоцкі, уласнік шэрагу маёмасцей на Падляшшы, звычайна ўкраў у ватыканскай Бібліятэцы абраз Маці Божай дзі Гвадэлупа вядомы цяпер як Кодзенская Божая Маці. Нічога дзіўнага, што з прычыны сваёй мастацкай і матэрыяльнай вартасці, падобны лёс быў як быццам наканаваны і крыжу св. Еўфрасінні Полацкай, які прыглядаў на сваім месцы толькі паўстагоддзя. Згодна летапісу, з якім пагаджаюцца і гісторыкі, каля 1222 года „смоляне з полочаны воевахуся і той крэст чэстный смоляне в Полоцку взяша в войне і прывезоша в Смоленск". Не зважаючы на заваяванне Смаленска ў 1404 годзе Вітаўтам і ўключэнне горада ў Вялікае княства Літоўскае, мяркуецца, што крыж не быў вывезены. Не згадваецца таксама, каб сталася яму нешта падчас паўстання смаленскіх гараджан супраць ваяводы Саковіча і баярау ў 1440—41 гадах (Бел. сав. энц., т. 9, ст. 599 і 560). У 1514 годзе маскоўскі князь Васіль III Іванавіч заваяваў Смаленск і хаця месяц пазней разбіў яго пад Оршай астрожскі князь Канстанцін, аднак крыж апынуўся ў Маскве ў якасці ваеннай здабычы (БСЭ, т. 2, стар. 615). У Маскве крыж заставаўся толькі каля 50 гадоў. Рыхтуючыся да паходу на Літву, цар Іван IV Грозны загадаў, як гаворыцца ў летапісе, „обновіці і украсіці" яго, што на практыцы магло азначаць чыстку або і замену некаторых элементаў. Іван Грозны ўзяў з сабою ў паход крыж Еўфрасінні і пасля штурму Полацка, ён упершыню вярнуўся на Радзіму. Іван, званы за свае жудасныя зверствы Жахлівым, дашчэнту разбурыў Полацк. Улічваючы супярэчлівы, маніякальны характар цара, які ад садызму лёгка пераходзіў да набожнасці, можна меркаваць, што сапраўды ён пакінуў крыж Еўфрасінні ў Полацку. Магло тут падзейнічаць заклянне, якога змест мусіў быць вядомы Івану Жахліваму. Тэкст заклцця гучэў: „Да не ізнесецца із монастыря нікогдажэ... а еслі кто прэслушает і ізнесет, да не будет ему помочніком чэстный крэст на век сей... да будет проклят Святою Жывотворашчэю Троіцэю і всемі святымі... і семю Соборамі Святых Отцэв і будет ему чэсть з Іудою, ежэ прэдал Хрыста". Вельмі праўдападобна, што Іван Жахліві пабаяўся заклцця. Ён здольны быў забіць мітрапаліта Філіпа, а потым месяцамі пасціць і каяцца, так што вяртанне крыжа мог лічыць формай пакаяння і апраўдання за свае зверствы ў Літве.

Некаторыя гісторыкі, спасылаючыся на старажытныя крыніцы, лічаць, што крыж да гэтага часу ўвогуле не пакідаў Полацка і на час маскоўскага штурму перанесены быў толькі з манастыра Спаса ў Сафійскі сабор. У паданнях згадваецца, што абрабаваўшы горад, маскоўскі цар не пасмеў вынесці крыж, „жахнуўшыся заклцця над ім". Так ці інакш прынята лічыць, што ў 1563 годзе крыж вярнуўся ў Полацк. Пасля адыходу Івана Жахлівага, ён некаторы час знаходзіўся ў Спаскім манастыры, а затым у Сафійскім саборы на Верхнім, умацаваным, замчышчы.

У 1579 годзе Полацк штурмам узяў каранаваны тры гады раней на вялікага князя Стэфан Баторый. Спаскі манастыр згарэў, а яго землі князь — гарачы прыхільнік каталіцызму — перадаў Ордэну езуітаў, якому, дарэчы, Баторый дарэчы вядзенне полацкага калегіума. Усведамляючы рэлігійную каштоўнасць крыжа, езуіты намагаліся захапіць яго, аднак гэта ім не ўдалося. Захавалася пісьмовае паданне, згодна якому аднойчы ў дзень Свята Уздзвіжання, калі крыж выносіцца для пакланення, езуіты падмянілі яго. Падлог быў заўважаны і злодзея злавілі на пайдарозе да езуіцкага калегіума. Такім чынам, крыж далей заставаўся ў полацкай Сафіі.

Разам з падпісаннем у 1596 годзе Берасцейскай уніі, крыж перайшоў ва ўладанне уніятаў і ахінула яго заслона таямніцы. Уніяты баяліся страціць незвычайную каштоўнасць, якую да таго незаконна прыдбалі. Калі і былі звесткі пра крыж, дык у выглядзе згадак поўных канфесійнай варожасці і прадузятасці. Як піша Сяргей Тарасаў (літаратар і мастак), духоўныя праваслаўныя ўлады даведаліся пра крыж толькі ў першай палове XIX стагоддзя. Выявілася, што ў часе французскарасейскай вайны ў 1812 годзе, ён зберагаўся ў Сафійскім саборы замураваны ў сцяну. Затым на некалькі гадоў перад афіцыйным скасаваннем уніі, цар Мікалай I уласнаручным дэкрэтам ад 10 красавіка 1832 года вярнуў праваслаўным царкву Спаса і загадаў перанесці туды Полацкі жаночы манастыр. Аднак царкву і манастыр трэба было рамантаваць, а грошай царскія ўлады не далі. Тады архіепіскап Полацкі і Віцебскі Васіль, каб сабраць сярод вернікаў грашовыя ахвяраванні, у 1841 годзе выраўшы вынесці крыж з Сафійскага сабора, каб паказаць яго шырэйшым колам насельніцтва. Такім чынам зноў, хаця на гэты раз толькі тры тыдні, крыж гасцяваў у Маскве, спярша ў крамлёўскім Успенскім саборы, а затым у іншых саборах і цэрквах. З Масквы полацкую святыню павезлі ў Пецярбург, дзе прабываў больш як месяц — пераважна ў Казанскім саборы. У выніку гэтага своеасаблівага паломніцтва сабрана 13 тысяч рублёў, з якіх 8 тысяч пайшло на аднаўленне і рамонт жаночага манастыра ў Полацку. 23 мая 1842 года ў Полацку адбылася ўрачыстасць: у Спаскі манастыр, „для вечнага захоўвання перанесены быў і векапомны крыж святой Еўфрасінні з урачыстым абрадам, з удзелам мноства народу з навакольных мясцовасцяў і гарадоў" (Хроніка Полацкай Епархіі). Такім чынам крыж другі раз вярнуўся на належнае і сваё першапачатковае месца.

Пасля бальшавіцкага перавароту ў 1917 годзе, полацкі крыж быў прызнаны музейнай каштоўнасцю. Мабыць, гэты факт усцярог яго ад знішчэння ў гады, калі знішчальная хваля бальшавіцкага тэрору абрушылася на царкоўныя культавыя прадметы і нацыянальныя каштоўнасці. Гэта быў час неймавернага варварства, калі ікона XV стагоддзя магла трапіць, як распалка, у печ, а старажытны твор мастацтва прадстаўляў вартасць металу, з якога быў выкананы. На шчасце лёс абмінуў полацкі крыж і ў 1928 годзе ён быў перададзены Менскаму дзяржаўнаму музею, а затым у Краязнаўчы музей у Магілёве. Даследчыкі згодна сцвярджаюць, што на пачатку савецка-нямецкай вайны крыж быў перанесены ў браніраваны пакой будынка колішняга Зямельнага банка, адкуль у тым жа годзе быў вывезены немцамі на Захад.

На гэтым абрываюцца звесткі пра крыж, бо ўвесь яго далейшы лёс застаецца невядомым. Тым не менш для справы яго адшукання і вяртання важныя ўсе меркаванні, здагадкі і чуткі, абы толькі яны навялі на след нашай нацыянальнай святыні... Але аб гэтым — у наступным нумары.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

# ШТО КАМУ СУДЖАНА

Хто нарадзіўся, лёс яму назначыўся і тое, што яму суджана, яго не міне. Так кажуць у народзе.

Так яно і ёсць. Як чалавек бы не стараўся, супраць свайго лёсу не пойдзе. Раскажу вам пра адно жыццё — Кацiна.

Каця была чацвёртай дачкой Агаты і Карпа. Кажуць, калі дачок сем, то доля ўсем. Не заўсёды гэта праўда. Не доля выпала Каці, а нядоля. Старэйшыя сёстры хутка і ніядрэнна пайшлі замуж. Мужыкі дасталіся ім працавітыя. Найстарэйшая Надзя жыла тры гады ў вёсцы, потым перасялілася ў горад. Уладкавалася кухаркай, муж быў чыгуначнікам. Ліда і Марыся засталіся жыць у вёсцы. Да Каці пачаў заляцацца Грыша. Хлопец прыгожы і многазямельны. Хаця зямля перастала ўжо быць у модзе, але з гаспадаркі ўсё ж можна выжыць.

Пайшла Каця да варожкі папытаць пра свой лёс.

— Не пабярэцеся вы, бо бацькі ягоныя не дазволяць! — паглядзела ў карты варожка. — Пойдзеш ты замуж за гультая і п'яніцу, хаця спачатку не будзеш ведаць, што за чалавек табе дастаўся.

Сумная вярнулася Каця дадому. Вечарам усё расказала Грышу. Хлопец абняў яе і пацешыў:

— Чаму ж ты ў глупствы верыш! Я цябе кахаю, будзеш маёй жонкай, а бацькам не разлучыць нас!

Здарылася іначай. Калі Грыша сказаў сям'і, што хоча жаніцца з Кацяй, ягоны бацька ўскіпеў:

— Каго ты думаеш прывалачы ў маю хату!? Каго?! Гэту ліпаву лапу? Не! Выганю прэч і яе, і цябе! Вазьмі такую, што кашулі не мае, то я сам ёй куплю, але этае не хачу нават і з пасагам!

Калісьці Кацін дзед судзіўся за зямлю з Грышавым, і выйграў справу. Сем'і з тае пары жылі ў варажнечы. Маладым гэта не перашкаджала, але калі пачалі валіць на Кацю ўсе бліжэйшыя суседзі, Грыша адрокся каханай.

Не расказаць нам, не апісаць, што перажывала дзяўчына. Найбольш балела тое, што яе нарачоны — слабы чалавек. І так першае і вялікае каханне адышло ў нябыт.

Грыша ажаніўся з суседкай. Каця восем гадоў была адна. Аднойчы ў сваты да яе прыехаў хлопец з суседняй вёскі. Ягоны бацька памёр, а маці вельмі цяжка хварэла. Пагаварыў з Кацінымі бацькамі, з ёю самою. Каця рашыла.

Спачатку жылося ёй нядрэнна. Калі памерла маці, Косця пачаў піць. Не слухаў жончыных просьбаў, не глядзеў на маленькую Мірку. На працу таксама не налягаў. Усё звалілася на Каціны плечы.

Плакала і праклінала свой лёс. Добра, што дачка расла, выдатна вучылася. Мірка скончыла школу, уладкавалася ў горадзе, выйшла замуж. Маці працавала, як вол. Прыйшоў час пайсці на пенсію. Іхнюю зямлю ўзяў малады сусед.

Косця прапіваў усе свае грошы і браўся за жончыны, але тая ўцякала з дому. Пасля двух гадоў такога пенсіянерскага жыцця п'яны Косця ўпаў пад аўтамашыну, вадзіцель не паспеў затармазіць.

Засталася Каця жыць адзінока. Адна яе радасць — унукі і тое, што дачцэ добры чалавек на жыццё трапіўся.

**АЎРОРА**



# НЯДЗЕЛЯ СВЯТЫХ ЖАНЧЫН-МІРАНОСІЦ

У гэтую нядзелю ўспамінаем з'яўленне Уваскрэсшага Хрыста Святым Жанчынам. Былі яны першымі з усіх людзей, якія былі ўдастоены ласкі пабачыць Госпада пасля Уваскрэсення.

Евангелле пералічвае сем Жанчын-Міраносіц, а менавіта: Марыю Магдаліну, Марыю Кляопаву (Якававу), Саламею, Іаанну, Марфу і Марыю — сясцёр Лазара і Сусанну. Апрача іх былі яшчэ іншыя жанчыны, якія служылі Хрысту і Яго вучням, але іх імён Свяшчэннае Пісанне не пералічвае. Некаторыя з жанчын пакінулі свае дамы і пайшлі за Ісусам. Іх любоў к Хрысту была нязменная, чыстая, простая і моцная. Яны ішлі за Ім без страху і боязі, нягледзячы на небяспеку, якая ім, як спадарожніцам Ягонай місіі, пагражала з боку ворагаў. Святыя Жанчыны не пакінулі Хрыста нават у час пакут і смерці на крыжы (Матф., 27:55-56, Марк, 23:49). Сваёй прысутнасцю прынасілі яны палёгку і падбадзёрвалі Багамаці. Гэта яны ішлі да магілы, каб пакланіцца Яму і памазаць Яго Прачыстае Цела пахучымі алеямі, ад чаго і пайшла назва Жанчыны-Міраносіцы. Сталі яны сімвалам жанчыны-хрысціянкі. Іх нязломная вера і адданасць былі ўзнагароджаны Хрыстом такім чынам, што з'явіўся Ён ім першым пасля Свайго Уваскрэсення. З таго моманту Жанчыны-Міраносіцы, так як і Апосталы, сталі прапаведнікамі Уваскрэсення Хрыста. А вось што аб гэтым здарэнні пішацца ў Св. Евангеллі:

„(...) Прыйшоў Іосіф з Арымафеі, выдатны член рады, які сам чакаў Царства Божага, і смела ўвайшоў да Пілата і прасіў цела Ісусавага. І Пілат здзівіўся, што Ён ужо памёр, і, паклікаўшы сотніка, спытаўся ў яго, ці даўно памёр? І, даведаўшыся ад сотніка, аддаў цела Іосіфу. І, купіўшы плашчаніцу ды зняўшы Яго, абвіў плашчаніцаю і палажыў Яго ў магілу, што была высечана ў скале, ды прываліў камень да дзвярэй магілы. А Марыя Магдаліна і Марыя Іосіева глядзелі, дзе Яго палажылі. І, калі прайшла субота, Марыя Магдаліна і Марыя Якавава і Саламея купілі пахучасцяў, каб пайсці, памазаць Яго. І дужа рана, у першы дзень тыдня, прыходзяць да магілы на ўсходзе сонца. І гаварылі між сабою: хто адваліць нам камень ад дзвярэй магілы? І, глянуўшы, бачаць камень адвалены, а быў ён надта вялікі. І, увайшоўшы ў магілу, убачылі дзецюка, які сядзеў з правага боку і быў апрануты ў белую шату. І спалохаліся. Ён жа ім кажа: Не палохайцеся! Шукаеце Ісуса Назараніна, распятага на крыжы? Ён уваскрос; Яго няма тут. Вось месца, дзе палажылі Яго. Дык ідзіце, скажыце вучням Ягоным і Пятру, што ідзе перад вамі ў Галілею; там Яго пабачыце, як сказаў Вам. І, выйшаўшы, пабеглі ад магілы; і ахапілі іх дрыжыкі і жах, і нікому нічога не сказалі, бо баяліся" (Марк, 15:43 — 16:8).

У гэтую нядзелю ўспамінаем таксама Іосіфа з Арымафеі і Нікадзіма, тайных вучняў Хрыста, якія палажылі Яго Цела ў магілу. Святыя Жанчыны-Міраносіцы былі першымі сведкамі Уваскрэсення, а Іосіф і Нікадзім — пахавання Хрыста. Гэта адны з самых важных догматаў нашай веры. У гэты дзень Царква заклікае сваіх вернікаў, каб услаўляць „Иосифа Чуднаго купно (разам) с Никодимом и Мироносицами верными".

**С. Н.**

# ПАНАРАМА МІХАЛОЎСКАЙ ГМІНЫ

## (9)
## Бунтарская Новая Воля

*У 1815 годзе адмовіліся выконваць паншчыну сяляне вёскі Новая Воля (Беластоцкі ўезд), прыналежаўшай Радзівілу...* — пісаў беларускі вучоны, Мікалай Улашчык, у кнізе *Предпосылки крестьянской реформы 1861 года в Литве и Западной Белоруссии* (Мінск, 1965).

1815 год. Толькі што праз нашы землі пракацілася напалеонаўская завіруха. У той час Напалеону спадарожнічала слава (несапраўдная!) асвабадзіцеля. Відаць, і ў Новай Волі сяляне спадзяваліся нейкай адмены свайго цяжкага жыцця. Калі гэтыя спадзяванні не спраўдзіліся, дык узнялі яны яўны бунт — адмовіліся ад паншчыны!

Князі Радзівілы сядзелі або ў замежных курортах, або ў Нясвіжскім замку. Сялянамі ў Новай Волі правілі іхнія арандатары, эканомы і цівуны. Збунтаваных сялян страшэнна высеклі, а затым прымусілі зноў уласным потам падліваць панскія загоны. Так было аж да 1846 года, які адзначыўся крывавай разнёю паноў у Галіцы. Галіцыйскім бунтам кіраваў Якуб Шэля.

Вестка аб галіцыйскім бунце дакацілася і ў Новую Волю. З паліцэйскіх дакументаў вынікае, што першым падбухторшчыкам нававольскіх сялян да супраціву сваім панам быў *мешчанін горада Кнышына Павел Рытэльскі*, якога адразу пасадзілі ў турму.

Непасрэдным правадыром збунтаваных сялян у Новай Волі быў жыхар гэтай жа вёскі Рыгор Серада. *Человек понимающий вещи по взгляду выше его состояния* — як ахарактарызаваў яго жандарскі чыноўнік.

Бунт пачаўся летам 1846 года. Ад маланкі загарэўся дом. Сяляне ўспрынялі гэта як знак Божы. Хваляванне нарастала. Рыгор Серада паясняў сваім аднавяскоўцам, што добры цар, заступнік і абаронца свайго простага люду, за здароўе якога яны кожную нядзелю так шчыра маліліся, ужо даўно даў волю прыгонным мужыкам ды іх сем'ям. Гэта толькі лютыя паны не прызнаюць волі цара-бацюшкі.

Вестка аб нечаканым здарэнні ў Новай Волі хутка дакацілася да ўлад. Яны паслалі ў вёску сваіх прадстаўнікоў і паліцэйскіх, каб на месцы даследаваць справу.

Новая Воля ўжо тады, у 1846 годзе была даволі вялікай вёскай. У дакументах аднатавана, што налічвала яна 98 сялянскіх двароў. Зразумела, што ўсялякія прыznакі мужыцкай непакорлівасці вельмі трывожылі сторажаў дзяржаўнага парадку.

Прыехаўшы ў Новую Волю, чыноўнікі і паліцэйскія патрабавалі ад сялян прысягі на вернасць сваім уладарам і дзяржаве. Рыгор Серада перасцерагаў сваіх аднавяскоўцаў: не прысягайце! Хто адмовіцца ад прысягі, — тлумачыў, — той з пачаткам 1847 года атрымае свабоду, а хто прысягне, дык і надалей вымушаны будзе адрабляць паншчыну!

І нававольцы не захацелі прысягаць. На паншчыну хадзілі, як і раней, і радзівілаўскія цівуны не мелі з імі аніякіх турбот, але ад прысягі ўпарта адмаўляліся.

Гэта быў ужо яўны бунт. Антыпрысяжны рух, распачаты летам 1846 года, хутка распаўсюдзіўся на суседнія вёскі, ахапіў некалькі тысяч сялян.

У верасні 1846 года Рыгора Сераду арыштавалі. Адыходзячы пад канвоем з роднае вёскі, мужыцкі правадыр заклінаўся на Усявышняга, каб яго аднавяскоўцы ў далейшым адмаўляліся ад прысягі ды зусім пакінулі паншчыну. Рыгор Серада карыстаўся, відаць, асабліва вялікім аўтарытэтам, бо, сапраўды, нававольскія сяляне яго паслухалі і спынілі адрабляць прыгонныя абавязацельствы. Губернскія ўлады накіравалі ў Новую Волю часовае аддзяленне земскага суда, якому спадарожнічалі паліцэйскія і салдаты. Сваю справядлівасць пачалі яны наводзіць нагайкамі і бізунамі. Плач дзяцей, галашэнне жанчын і енкі катаваных сялян запаўнялі вёску. Не зламала гэта, аднак, мужыцкай упартасці. Праўда, на паншчыну яны пайшлі, але прысягаць адмаўляліся. Беластоцкі паліцэйскі спраўнік паведамляў сваім начальнікам: *Упартасць сялян у выконванні прысягі праўзыходзіць усялякае ўяўленне*.

Ён загадаў адабраць найбольш *упорствующих*, тых сярод нававольскіх мужыкоў, якія вялі сябе найбольш дзёрзка. Адабралі 38 чалавек. Паставілі іх пад арышт. М. Улашчык піша: *Амаль усе арыштаваныя сяляне, 38 чалавек, адказаліся падпісаць пратаколы допыту і размаўлялі з паліцэйскім спраўнікам з азартам...*

У турме працягвалася „апрацоўка" арыштаваных сялян. Асабліва ўладам залежала, каб зламаць важака сялянскага руху, *чалавека з дзёрзкім і энергічным характарам* — як пішуць пра Рыгора Сераду ў паліцэйскіх дакументах. І яны свайго дабіліся. Р. Серада ў рэшце рэшт згадзіўся даць прысягу ды яшчэ пачаў намаўляць іншых сялян, з якімі разам знаходзіўся ў астрозе, каб таксама даўжэй ужо не бунтаваліся, бо зямля патрабуе сялянскіх рук, а Гасподзь Бог стварыў мужыка да працы...

Канчаўся кастрычнік 1846 года. Усіх арыштаваных сялян з Новай Волі і з суседніх вёсак накіравалі з Беластока ў Заблудаў. Усіх, апрача Рыгора Серады. Яго надалей пакінулі ў турме. І далейшы яго лёс, на жаль, ужо нам не вядомы.

У Заблудаў сагналі арыштаваных з іншых вёсак. Беластоцкі спраўнік спадзяваўся, што нававольскія сяляне, якія ўжо паабяцалі даць прысягу, паўплываюць на іншых мужыкоў. Спадзяванні не апраўдаліся. Гэта нававольцы зноў заявілі, што не будуць прысягаць, што найперш трэба ім ведаць меркаванне цэлай грамады. Тады, сапраўды, паслалі іх у сваю родную вёску і зачынілі ў доме мясцовага святара. Адначасова ў след за мужыкамі ў Новую Волю накіравалі войска.

Пад дом святара, айца Мікалая Базылеўскага, збегліся ўсе жыхары Новай Волі. Цесным кругам абставілі яны прыхадскі дом і *з найвышэйшым шумам і лямантам патрабавалі не прысягаць* (гэта словы з паліцэйскага рапарта). Спраўнікаддаў загад, каб арыштаваных сялян зноў забраць з хаты айца М. Базылеўскага і адправіць іх у астрог, хай там паразумнеюць. Салдатам, аднак, не ўдалося пранікнуць у дом святара, каб вывесці адтуль арыштаваных. Дарогу загарадзіў ім збунтаваны натоўп нававольцаў. Не перапалохаліся яны аніякіх пагроз. Наперад выступілі цяжарныя жанчыны.

— Страляйце, калі Бога ў сэрцы не маеце! — крычалі яны. Ротны афіцэр, кіруючы гэтай акцыяй уціхамірвання сялян, не адважыўся, аднак, прымяніць агнястрэльную зброю. І адступіў. Спатрэбілася большая сіла. Гродзенскі генерал-губернатар накіраваў у Беластоцкі ўезд яшчэ два батальёны салдат. Весткі аб бунце сялян у Новай Волі абляцелі цэлую краіну і даволі ўстрывожылі тадышніх прадстаўнікоў найвышэйшай улады. Нават сам намеснік Каралеўства Польскага, князь Паскевіч, паслаў у Новую Волю ўласнага ўпаўнаважанага. Ані Беласток, ані Заблудаў, як уласны горад, ніколі дагэтуль не бачылі такой колькасці важных чыноў. Чатыры роты салдат акупіравалі Новую Волю. Дом святара Мікалая Базылеўскага стаўся іх галоўным штабам.

Уціхамірванне збунтаваных сялян пачалося ад масавага катавання, здзекаў. Плач, крык, енкі не сціхалі некалькі дзён. Скатаваныя, ледзь жывыя, мужыкі згадзіліся прысягнуць. Пасля яны доўга залечвалі свае раны. 21 лістапада 1846 года гродзенскі генерал-губернатар асабіста пабываў у раёнах нядаўняга бунту і з палёгкай сцвердзіў, што ўсе падданыя цара жывуць ужо спакойна. На вызваленне ад паншчыны сялянам давялося чакаць яшчэ 15 гадоў.

### Па слядах памяці

Вось расказ аднаго дзядулі з Біндзюгі, вёскі на рацэ Нарве, пра плытагонаў, якіх завуць тут арэлямі:

У час веснавога паўнаводдзя Нарвы іх гуканні былі чутны далёка. Усе дзеці з вёскі, пачуўшы іх гучныя каманды, беглі глядзець, як яны на звілінах ракі спрытна кіравалі плытамі-гленямі. Бывала, збухтуюцца глені, тады і сакавітай лаянкі наслухаемся. Не заўсёды ўдавалася лёгка справіцца з імі і часта даводзілася арэлям лезці ў ледзяную ваду.

Нам, хлапчукам, падабалася рамантыка арэлькі, шалашы на плытах, вогнішчы, з павешанымі над імі катламі або вёдрамі, у якіх варылася страва. Сплаўны лес з Ялоўскай і Белавежскай пушчаў гналі ў „таямнічы" Тыкоцін.

Арэлі былі цікавыя... Ужо зараз няма каму расказаць аб гулянках арэляў у карчме на Перавозе паміж Лукой і Бандарамі, аб „чмутарах" і ўсіх таямнічых з'явах, якія спадарожнічалі арэлям у час іх адпачынку. Карчмаў па дарозе было многа і большая частка зробленых грошай заставалася ў іх.

У карчмах часта забаўлялі іх сваімі штукамі вандроўныя „чмутары", у якіх былі таямнічыя „вочы". Яны абманвалі даверлівых прастакоў ілюзіяністкімі прыёмамі, гіпнозам. Так ужо бывала, што пасля гулянак арэлі заставаліся без грошай, а вінаватай была... нячыстая сіла. Магла яна выступаць у пастаці спакуслівай прыгажуні — дзяўчыны, якая вадзіла чалавека па зачараваным казачным свеце, пераўтваралася ў розныя фантастычныя пастаці і ў канцы чалавек будзіўся недалёка ад карчмы, пад плотам ці ў хлеўчыку, а ля яго хрукала свіння... Многа прыгод падобнага тыпу расказвалі арэлі.

Пашыраная і ўсеагульная вера ў дэманічныя нячыстыя сілы спрыяла таму, што ніхто не спалучаў умелага прымянення наркотыкаў праз карчмароў з дзіўнымі прывідамі, аб якіх расказвалі ўдзельнікі гулянак у карчмах, асабліва арэлі. Так вось пра чараўніцтвы даўняга часу многія памятаюць да гэтай пары. Яны жывуць у апавяданнях бывалых арэляў і не забываюцца.

*(Працяг будзе)*

**Янка Целушэцкі**

# УЛАДЗІМІР КЛІШЭВІЧ — ПАЭТ РЭФЛЕКСІЎНЫ

## Частка VI

Уладзімір Клішэвіч належыць да тых рэдкіх беларускіх пісьменнікаў, якія, папаўшы ў савецкую турму і ссылку, пакінулі цыкл вершаў, прысвечаных свайму зняволенню. Не простая гэта была справа. Правілы, якія абавязвалі ў савецкіх турмах, былі суровыя. У ніякіх выпадках не прадбачвалі магчымасці займацца літаратурнай творчасцю. Якім спосабам Уладзіміру Клішэвічу ўдалося абысці нормы турэмнага жыцця, не ведаем. Аднак тое, што ўдалося яму напісаць у турме вершы, зберагчы іх і пераправіць на волю, гэта свайго роду подзвіг. Хаця магчымы і такі варыянт: паэт стварыў цыкл турэмных вершаў, захаваў іх у памяці і толькі пасля, знайшоўшыся на свабодзе, перанёс іх на паперу.

Захаваныя турэмныя вершы Уладзіміра Клішэвіча ўтрыманы як бы ў нявінным пазапалітычным тоне. Няма ў іх непасрэдных атакаў на панучую сістэму. Пазбаўлены яны непасрэднага наракання паэта на свае зняволенне. Аднак атмасфера глыбокага смуткавання з прычыны страты свабоды ў творах гэтых пастаянна прысутная.

Цікава, што ўсе тры захаваныя турэмныя вершы, якія ўзніклі ў жніўні і верасні 1937 года ў мінскай турме, маюць нявінныя загалоўкі: „Васілёк", „Жураўлі", „Гусі".

Першы з вершаў, „Васілёк", узнік пад выразным уплывам Максіма Багдановіча, які вельмі часта адклікаўся да вобраза васілька, у якім бачыў сімвал роднай Беларусі і асабістай свабоды. У творы гэтым вельмі красамоўная трэцяя страфа, у якой паэт, звяртаючыся да васілька, гаворыць:

*Усміхайся, любы, покуль вочы свецяць,*
*І цябе шчаслівым я не назаву,*
*Пражывеш нядоўга ты на белым свеце,*
*Покуль серп халодны зніме галаву.*

Маем тут дачыненне з адназначнай алюзіяй, якая праз паралелізм лёсу васілька і лёсу вязня паказвае на магчымую трагедыю зняволенага паэта.

Характар двух наступных вершаў, якія паўсталі ў мінскай турме: „Жураўлі" і „Гусі" можа сведчыць аб тым, што іх аўтар знаходзіўся пад уплывам Алеся Гаруна, які, апынуўшыся ў сібірскай ссылцы, вельмі часта пісаў творы, выкарыстоўваючы форму звароту да птушак, што ляцелі ў напрамку Беларусі, калі ён, вязень, не быў у стане туды падацца. Аднак тэзу аб уплыве Гаруна нельга ставіць катэгарычна. Зусім магчыма, што Уладзімір Клішэвіч пісаў свае вершы зусім самастойна, а падабенства яго твораў і твораў Гаруна можа сведчыць толькі аб тым, што аналагічныя жыццёвыя сітуацыі могуць дыктаваць падобныя паэтычныя прыёмы. У вершы „Гусі" больш аўтарскага прыадкрывання, чым у вершы „Васілёк". Тут аўтар, ужываючы зварот: „Бо ў мурох я гэтых без пары загіну" выразна акрэслівае сваё месцазнаходжанне і гаворыць аб гэтых небяспеках, якія пагражаюць яго жыццю. Верш „Гусі" — твор аднаго тэматычнага і настраёвага акорду. Няма ў іх шырокай апісальнасці, адсутнічаюць лірычныя адступленні. Вылучаецца ў ім манатэма — рэфлексіўны зварот вязня да птушак. У сувязі з тым, што верш „Гусі" кароткі, прыводжу яго ў цэласці.

*Праляцелі гусі па-над цёмным борам,*
*Смутак заранілі ў сінія прасторы.*
*Праляцелі гусі па-над чыстым полем...*
*Дзе ты, маё шчасце? Дзе ты, мая доля?*
*Ой, вазьміце, гусі, з сабой на хвіліну,*
*Бо ў мурох я гэтых без пары загіну.*
*Запытаў у іх я аб сабе нясмела:*
*— Ці не разам з вамі шчасце праляцела?*
*Не сказалі слова, замаўчалі самі,*
*Гаманілі сумна сосны з верасамі...*

Як бачым, у прыведзеным вершы няма экстрэмальнага ляманту над сваім нявольніцкім лёсам. Наадварот, пісьменнік як бы падкрэслівае сваю арганічную еднасць з тымі элементамі роднай прыроды, якія астаюцца па-за прыгнётам і зняволеннем.

Апрача гэтых вершаў, у спадчыне Уладзіміра Клішэвіча знаходзім некалькі важных твораў, прысвечаных сібірскай ссылцы. Аднак гэта ўжо асобная тэма.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

 

# З МЕСЯЧНАГА КАЛЕНДАРА

**15—16.V Месяц у Раку.** Рак кіруе грудзьмі. Прымайце ванны з мінеральнымі солямі, хвояй, валяр'янкай, на твар — маскі з тварагу і малака. Еште гародніну і садавіну, не піце многа вады (ацёкі).

Добры ўплыў Месяца на гарбузы, дыні, кустовую фасолю, караняплоды, радыску і рэдзьку, памідоры, спаржу. Не садзіць і сеяць таго, што расце ўвысь.

**16—18.V. — Месяц у Льве.** Кіруе спіной і пазваночнікам. Адпачывайце. Не купляйце вопраткі — хутка будзе зношвацца.

Добры ўплыў Месяца на пасадку дрэў і кустоў. Асцярожна з вострымі інструментамі.

**18—20.V. — Месяц у Дзеве.** Кіруе жыватом. Добра пагаладаць, піць настоі на травах, рабіць масаж пазваночніка. Добры ўплыў Месяца на дэкаратыўныя кусты, невысокія дрэвы.

**21—22.V. — Месяц у Шалях.** Дні гармоніі, красы, здароўя. Не нервуйцеся. Адпачывайце. Піце мачагонныя травы, кладзіце пажыўныя маскі на твар.

Добры ўплыў Месяца на бульбу, рэпу, спаржу, фасолю, гарох, віку, сачавіцу, зерневыя, асабліва на клубневыя і стручковыя культуры (калі Месяца ўбывае). Дрэвы і кусты садзіць пры прыбыванні Месяца.

**Нядзеля, 15.V — 6 месячны дзень.** Сімвал — Вясёлка альбо Мост.

Лічыцца найлепшым днём для сузірання і любові. Дзень радасці і палкасці. Добра пабірацца ў гэты дзень шлюбам. Добры і паспяховы для навукі і даследаванняў, для заняткаў духоўных і навуковых, пошукаў рэчаў і жывёл. Дзіцё народжанае ў гэты дзень дажыве да старасці. Дзень кепскі для зладзеяў і бандытаў. Абвастраецца інтуіцыя, і чалавек можа ўбачыць сімвал свайго жыцця і прадбачыць будучыню сваю і іншых.

**Панядзелак, 16.V. — 7 м. дзень.** Сімвал — Певень.

Дзень аховы ад сурокаў (чараў). Чараўнікі і чорныя магі, якія прыносяць іншым зло, і зайздроснікі хварэюць. Не трэба скрываць свае думкі, ілгаць, выкручвацца, хітрыць і ісці на кампраміс. Добры для спраў, якія можна хутка закончыць. Паспяховы ў справядлівых справах. Добры для хірургічных аперацый. Дзіцё, народжанае сёння, будзе добрага здароўя. Сны могуць здзяйсняцца.

**Аўторак, 17.V. — 8 м. дзень.** Сімвал — Фенікс. Дзень удачлівы для падарожжаў, камандзіровак, пераезду. Добры для людзей рызыкі. Устрымайцеся ад кантакту з вадой. Пачынайце новыя справы. Дзіцё, народжанае сёння не будзе прыгажуном, але будзе прыцягваць да сябе ўвагу людзей дзякуючы працы і ведам. Хваробы небяспечныя. Снам у большасці можна верыць.

**Серада, 18.V. — 9 м. дзень.** Сімвал — Кажан. Працягвайце пачатыя справы. Дзень ашуканства. Не займайцеся любоўю, адкладзіце заручыны ці шлюб. Нельга варажыць. Ачышчайце свой арганізм (галадоўка, сокавая дыета). Дзіцё, народжанае сёння, будзе мець доўгае і творчае жыццё. Хваробы небяспечныя, але не смяротэльныя. Сны — здзяйсняюцца.

**Чацвер, 19.V. — 10 м. дзень.** Сімвал — Фантан. Дзень добры для кожнай справы. Звязаны з домам, сям'ёй. Можаце пачаць пабудову дома. Добра пойдуць справы ў бізнесе, рэкламе. Удакладніце свае сямейныя справы, паладзьце канфлікты (добры шанц для згоды). Хвораму неабходная дапамога. Сны — неістотныя.

**Пятніца, 20.V. — 11 м. дзень.** Сімвал — Карона альбо Вогненны Дракон. Дзень звязаны з касмічнай энергіяй. Добры дзень для падарожжаў, таксама далёкіх. Дзень актыўнасці. Дзіцё дажыве да глыбокай старасці. Хваробы небяспечныя для жанчын.

**Субота, 21.V. — 12 м. дзень.** Сімвал — Чара альбо Сэрца. Дзень вешчых сноў. Нічога не плануйце. Будзьце сардэчнымі. Добры час для пачынання лячэння, асабліва вадой, купаннем. Варажыць могуць толькі людзі, якім гэта дазволена.

(М)

# КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. прадмет, у які ўпіраюцца, 8. мастак родам з Віцебска (1887—1985), 9. любіцель, 10. крупінкі лёду з хмары, 11. рака ў Закаўказзі, 13. сталіца Калмыкіі, 15. цэнтральная частка Паўднёвай Амерыкі, 16. порт у Балгарыі, 20. рэчыва, якое прымае форму сваёй пасудзіны, 22. уласнік, 23. даўнейшая назва Беларусі, 27. прэзідэнт ЗША (1933—45), 29. струнны музычны інструмент, 30. мікрадзяржава ў Акіяніі, 31. акругнасць, 32. гульня ў пласцінкі з вочкамі, 33. віленская рака, 34. ніжняя канечнасць.

**Вертыкальна:** 1. доіць кароў, 2. пастка, 4. мястэчка на Гродзеншчыне, 5. французскі скульптар (1840—1917), 6. канцэнтрацыя на адной ідэі, 7. мястэчка на Гродзеншчыне, 12. гоніць смалу з хвойных дрэў, 14. прэзідэнт ЗША (1861—65), 16. цяжар, 17. колішняя назва зямель усходніх славян, 18. калючае пустазелле, 19. цемра, 21. вывучае культуру і быт старажытных народаў, 24. дзяржава з Рымам, 25. член рэлігійнай абшчыны, 26. вялікая азіяцкая дзяржава, 27. яўрэйскі святар, 28. правіла.

(Ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 13 н-ра:**

**Гарызантальна:** амін, рынак, ідылія, атол, гудок, ампер, Гандвана, лік, каравела, патранат, аса, здарэнне, Шынгу, архіў, клін, Вердзі, іслам, трыо.

**Вертыкальна:** „Жыгулі", парог, методыка, Ніл, Шырма, білет, Катманду, Антаніна, ліпа, Кіта, вера, хата, атрэсіны, спісак, шыфер, згода, ерась, кіт.

Кніжную ўзнагароду атрымаў **Лукаш Пацэвіч** з Беластока.



Дарагі Астроне! Калі была зіма, дык і пісаць не хацелася. Усё было перамерзлае, ды нават і галава перамерзла, дык нічога не снілася. А вось сёння пад раніцу прысніўся мне сябра з Бельска. Вось быццам бы прыехаў ён у Ольштын, мы сустрэліся і тады ён гаворыць: „Ужо няшмат мне жыцця засталося, хутка ўжо адыду я з гэтага свету, дык не шкадуй мяне!" А я кажу, што калі пацяплее, дык ён паправіцца. Мне здаецца, што ён мне прыслаў пісьмо, што захварэў і хоча бачыць мяне, але ведае, што я няхутка прыеду ў Бельск. Я спытаў, ці мой сябра не галодны, а ён мне сказаў, што нічога не еў. Я яго запрасіў да сябе, сказаў, што там крыху перакусім і вып'ем па кілішку каньяку, і на гэтым прачнуўся.

Астроне! Гэты сон мяне вельмі напужаў. Што ён абазначае?

А другі сон прысніўся маёй жонцы. Быццам яна з мамай, якая памерла, парадкуе на цвінтары магілу бацькі і брата, якія памерлі ўжо даўно. Пасля яны ішлі па лузе, а вакол было светла, шмат сонца. Што чакае маю жонку?

**Андрэй**

Андрэй! Твой сон, здаецца, навеяны рэчаіснасцю. Ты думаў пра свайго сябру, мо нават ведаў, што ён хворы, вось і прыснілася табе тое, што прыснілася. Але вялікай радасці напэўна ён не прадвяшчае. Тваё спачуванне хвораму і галоднаму чалавеку абазначае аднак, што твае справы будуць ісці нармальным ходам.

Сон тваёй жонкі абазначае, што пасля нейкіх цяжкасцей прыйдзе супакаенне. Маці-нябожчыца абазначае перамену на лепшае, магіла — шчасліваe выйсце з цяжкага становішча, луг і сонца — святлейшая будучыня, чаго тваёй жонцы і табе жадае

**АСТРОН**

# ЯК ТАМ НА ТЫМ СВЕЦЕ?

Адна жанчына спявала ў царкоўным хоры. Часта запрашалі яе, каб адпявала пакойнікаў.

— Я там не веру, каб пасля смерці штосьці было, — гаварыла Ганна. — Тут вось у нас пекла і рай, а там няма нічога. Памрэ чалавек, пахаваюць яго і згніе ён у зямельцы, а ўсё ягонае на зямлі прападзе!

Аднойчы ў іхняй вёсцы памерла дзяўчына. Якраз у жніво. Папрасілі Ганну паспяваць над нябожчыцай. У той дзень трэба было і хлеб пячы. Пажала крыху Ганна разам з сям'ёй, потым, каля поўдня, пайшла дадому замясіць хлеб. Замясіла цеста, і, чакаючы, пакуль яно падыдзе, пачала шыць хвартух.

Раптам адчыніліся дзверы і ў хату увайшла кабета, якая памерла год раней.

— Ці можна ў вас пазычыць рэшатка перасяваць муку, бо ў нас рыхтуем гасціну? Маладуху да нас сёння прывядуць, — звярнулася да Ганны, а рукі трымала складзеныя так, як складаюць нябожчыкам.

Ганна задрыжала і падала ёй рэшата. Калі здань выйшла, пачала маліцца.

Недзе праз гадзіну прыйшла нябожчыца аддаць рэшатка і павесіла яго на цвічок.

У той дзень Ганна не спякла хлеба і не змагла пайсці на адпяванне. Ад перапуду ляжала хворая тры тыдні.

**АЎРОРА**

# МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

**Чаму мы так гаворым?**

Музеямі (ад грэчаскага „музейон") у Старажытнай Грэцыі называліся свяцілішчы ці храмы муз. У Александрыі „музейон" пры Пталамеі II быў часткай палаца, дзе накапліваліся творы мастацтва, якія ўзвелічалі палітычную ўладу.

**Ці ведаеце, што...**

... на тэрыторыі былога СССР ёсць 3 мільёны рэк. Сярод іх найкарацейшая на свеце рака Рэпруга. Выплывае яна з пячоры каля мясцовасці Гагра і ў 20 м далей уплывае ў Чорнае мора.

(а-ця)



*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**СУП З МАЛАДОЙ КРАПІВЫ**

Прадукты:

*2 літры булёну,*
*15 дзкаў лісця маладой крапівы,*
*1 сярэдняя цыбуліна,*
*1 лыжка рысу,*
*1—2 бульбіны,*
*тлушч,*
*соль і перац,*
*зеляніна пятрушкі.*

Цыбулю пасячы і падсмажыць. Рыс варыць мінуты 2—3 у кіпетні. У кіпячы булён палажыць цыбулю і рыс, дадаць парэзаную вялікімі кавалкамі бульбу. Мінут на 15 перад канцом гатавання палажыць пасечаную крапіву і прыправы. Перад падачай дадаць у суп дробна нарэзаную зеляніну пятрушкі.

**ГАСПАДЫНЯ**



**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міpановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1994 r. upływa 20 maja 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 9000 zł., a kwartalnie - 117000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

 

## ПІСЬМЕННІЦКІЯ БЫЛІ І НЕБЫЛІЦЫ

### З ЧЫМ ЛЕПЕЙ ПРЫХОДЗІЦЬ ДА СУСЕДА?

Максім Танк неяк расказваў, як у 1956 годзе прыехаў на сотыя ўгодкі Адама Міцкевіча польскі паэт Уладзіслаў Бранеўскі, і яны з групай беларускіх пісьменнікаў паехалі на Навагрудчыну. Выйшлі з музея паэта, а ў скверы сабраўся натоўп, і людзі цікавяцца:

— Кажуць, што прыехаў унук Міцкевіча, дзе ён, каторы?

— Мы тут усе ўнукі Міцкевіча, — адказаў Уладзіслаў Бранеўскі.

Калі пасля абеду пісьменнікі выйшлі з рэстарана і ступілі на плошчу, Бранеўскі падышоў да Максіма Танка, абняў яго і прачулена загаварыў: „На гэтай зямлі я ваяваў у легіёнах Пілсудскага, тут загінулі мае сябры, легіянеры...” Максім Танк падумаў: Бранеўскі ваяваў у яго родных мясцінах — у раёне станцый Княгініна і Крывічы. Але ж не плакаць цяпер разам з ім. І тут жа сказаў госцю:

— А чаго ты сюды з вінтоўкай ішоў? Прыехаў бы з паўлітэркай і цябе сустракалі б, як сёння.

**АЛЯКСЕЙ ГАРДЗІЦКІ**
**(„Полымя”)**






Малюнак В. Ключніка

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

Дырэктар прымае на працу новага працаўніка:

— У нашай фірме абавязваюць два асноўныя прынцыпы: першы — гэта чысціня... Дарэчы, ці выцерлі вы чаравікі перад уваходам у мой кабінет?

— Зразумела, выцер.

— А другі прынцып — гэта праўдзівасць. Перад маім кабінетам няма дыванчыка для выцірання абутку...

* * *

Дырэктар да свайго працаўніка:

— З вас быў бы дасканалы злачынца.

— Чаму?

— Бо не пакідаеце ніякіх слядоў сваёй дзейнасці.

* * *

— Што, цікавішся модай? — пытае ўзломшчык калегу, які аглядае журнал моды.

— Модай не, але мушу ведаць, дзе ў будучым годзе будуць кішэні.

* * *

— 500 тысяч злотых або страляю! — крычыць бандыт.

— А ці будзеце мець здачу з мільёна? — пытае Кавальскі.

* * *

— Ці гэта праўда, што ўсе грыбы ядомыя?

— Так, прытым некаторыя толькі адзін раз у жыцці.

* * *

— Што думае жаба, прытуліўшыся да вожыка?

— Любоў — гэта пакута.

* * *

— Што думае курыца, уцякаючы перад пеўнем?

— Зраблю яшчэ два кругі вакол кратніка, каб суседкі не трапалі языком.

* * *

— Які снарад найбольш небяспечны?

— Жанчына: пападаецца на вочы, кроіць сэрца, псуе нервы, залазіць у кішэнь і вылазіць бокам.

* * *

— Перад кім кароль здымае карону?

— Перад цырульнікам.

* * *

— Што атрымаем ад скрыжавання жырафы і шпака?

— Камбайн для ўборкі вішняў.

Даслаў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## САНІТАРНАЯ ПАЧВАРА

Здань гэтая паявілася на Гродзеншчыне ў канцы 40-х гадоў. Пасля заканчэння вайны Гродна стала абласным цэнтрам і там, як і ва ўсіх іншых абласных цэнтрах, быў заснаваны абласны камітэт УКП(б), які заняў найбольш прэстыжны будынак у горадзе. Працавалі ў ім не толькі сакратары камітэта і загадчыкі аддзелаў, але таксама і простыя людзі, зрэшты, як і быць было павінна — сацыялізм будавалі ўсе. Адным з гэтых простых людзей была прыбіральшчыца Ю. Я. Перасялілася яна ў Гродна з аднаго з калгасаў у Магілёўскай вобласці па рэкамендацыі загадчыка аддзела, якому была цешчай. Працавала яна ахвярна і акуратна, аднак не ўдалося ёй утрымаць узорнай чысціні, гэтым разам ідэалагічнай. Наведаў вось аднойчы Гродна адказны працаўнік аднаго з аддзелаў ЦК з Масквы. Даючы ўказанні мясцоваму актыву, адчуў ён у адзін момант патрэбу пайсці туды, куды ходзяць усе, з адказнымі працаўнікамі ЦК уключна. Зайшоўшы, амаль не абамлеў ад абурэння: на заржавелым цвіку віселі акуратна парэзаныя кавалкі газеты — органа ЦК. Да таго ж яшчэ на верхнім відняліся вусы, якія павінен быў добра ведаць кожны грамадзянін краіны, і якія павінен вешаць у рамках на пачэснае месца, а не прабіваць заржавелым цвіком.

Перапоўнены рэвалюцыйнай пільнасцю, адказны працаўнік ЦК адтэрмінаваў сваю асабістую патрэбу на карысць прынцыповай справы і, трымаючыся за жывот, з месца склікаў пасяджэнне абласной спецтройкі, якая імгненна прызнала вінойнай вядомую нам прыбіральшчыцу Ю. Я. Прыбіральшчыца Ю. Я., член партыі з 1917 года, загадзя прадчуваючы свой прыгавор і свядомая свайго агромнага злачынства супраць партыі і народа, правалілася не пад зямлю, як гэта найчасцей бывае, а ў санітарныя трубы, бо палюбіла іх, даглядаючы з вялікай дбайнасцю. І доўгія гады яна там то трубіла, то стагнала, то свістала, але найчасцей выла ад жаху, у якім аставалася, нягледзячы ні на „пацыпленне”, ні на „перабудову”. Ды вось сталася так, што партыю распусцілі і былыя камітэцкія санітарныя трубы пачалі напаўняцца іншым, непартыйным, зместам. Атмасфера гэтая моцна не адпавядала прыбіральшчыцы Ю. Я. і яна пачала разглядацца за новым месцам. У той час побач новаадкрытага гранічнага кантрольнага пункта ставіліся новыя будынкі санітарнага прызначэння. Бетонныя, масіўныя, як будынкі абласных камітэтаў, прыйшліся па душы былай прыбіральшчыцы Ю. Я., члену партыі з 1917 года, і яна перабралася ў адзін з іх. Заходзілі сюды зусім незнаёмыя людзі: турысты, міліцыянеры, мытнікі, кантрабандысты ды ўсякі іншы зброд. Не гаварылі яны пра ажыццяўленне пастаноў з'езда ці пленума, толькі сварыліся і дзіка лаяліся, наводзячы яшчэ больш жах на былую прыбіральшчыцу Ю. Я. Ды вось аднаго разу ў бетонны масіўны будынак зайшоў Я. Ю., уплывовая асоба, які не мог прабіцца сваёй машынай цераз агромную чаргу, якая займала ўсе палосы дарогі да гранічнага кантрольнага пункта. Бюракрат гэты (а чынушы, як усім вядома, гэта надта культурныя людзі), стаўшы задам да прамавугольнай дзіркі ў падлозе, пачаў расшпільваць штаны і, нават у пачуцці небяспечна пільнай патрэбы не загнуў матам, а толькі дастойна прамовіў:

Пражыў я на свеце гадоў ужо нямала,
І многа пабачыў і многа пачуў.
Нага мая многія землі таптала
І вывад такі вось сказаць я хачу.

Мне шчасце спрыяла праз доўгія годы:
І ў працы кар'ера, й раскоша ў каханні,
Аднак не было мне вышэй асалоды
Ад паху палёгкі, што кончыць стагнанне.

Сказаўшы гэта і апусціўшы штаны, Я. Ю. ужо хацеў прысесці, калі пад ім, у прамавугольнай дзірцы нешта захлюпатала. Ён, прытрымоўваючы штаны ў руках, адступіў крыху і ўбачыў, што з прамавугольнай дзіркі падымаецца нейкая пачвара. Была гэта былая прыбіральшчыца Ю. Я. Стаўшы перад уплывовым Я. Ю. у цэлай сваёй красе, абцерла твар рукою і прамовіла:

Загнаная спецтройкаю ў цёмныя
падвалы,
Каб людзі праклінали харом мой і мяне,
На момант гэты доўга я чакала,
Калі мой атрыбут хтось цёпла спамяне.

Мой мілы, добры, і мудры бюракраце,
Найпрыгажэйшы ў свеце цэлым,
Хачу ісці з табой як вецер,
Пайсці як бура, ашалелай!

Я распалю ў табе касцёр кахання
І прыпадзеш ка мне з запалам дзікім,
І счэпімся рукамі і нагамі,
З гарачымі грудзьмі і ноздраў хрыпам.

І ў целах нашых цэлы свет закрыем —
Агнём кахання выпалім датла.
Ў смале пякельнай, ў ядзерных узрывах
Згарэць другім. А нам — ў любві хана.

Я. Ю., які ў першы момант знерухомеў ад нечаканасці, апрытомнеў і, пачуўшы гэтыя словы, кінуўся ў дзверы. Згубіўшы штаны, ірвануўся ён з мультфільмавай хуткасцю не ў сваю машыну, а ў лес, раскідаючы пятамі тое, што было яму ў гэты момант акурат непатрэбнае. Сляды гэтага здарэння на гранічным кантрольным пункце ўдзячная пачвара штодзённа акуратна адсвяжае, песцячы ў глыбіні душы надзею, што культурны і ўплывовы Я. Ю. ачуняе ад шоку і з радаснай надзеяй у сэрцы вернецца ў яе пачварны палац.

Падрыхтаваў
**АДАМ МАНЬЯК**




Мілае Сэрцайка! Ён быў маім першым хлопцам. І ён, і я — з так званых добрых сем'яў. Хаця былі мы яшчэ студэнтамі, бацькі яму купілі самаход, так што спатыкаліся мы, дзе хацелі. Я была шчаслівая да непрытомнасці пасля сустрэч з ім, зачынялася ў сваім пакоі, не размаўляла з бацькамі, не заглядала ў падручнікі. Давялося нават паўтараць другі курс. А ён вучыўся добра. Заставаўся яму адзін год да канца вучобы, калі выехаў у Канаду на летнія канікулы да дзядзькі. Я не магла дачакацца яго. Цэлымі гадзінамі не выходзіла з хаты, ляжала ў ложку і глядзела ў столь нябачнымі вачыма. Думкамі была з ім. Прыехаў у канцы верасня, але паводзіў сябе незразумела. Не пазваніў адразу, не прыбег да мяне. Я сама прыйшла да яго, калі даведалася ад сяброваk, што ён вярнуўся.

Маці яго сустрэла мяне сімпатычна, але хавала вочы. Хлопца не было дома, і яна запрасіла мяне на каву. Я адчувала, што хоча мне нешта сказаць, але стрымлівалася. Урэшце не вытрымала і (яна любіла мяне) вылажыла ўсю праўду. У Канадзе дзядзька майго хлопца пазнаёміў пляменніка з цудоўнай дзяўчынай, якую ён яму спецыяльна „падрыхтаваў”, і хлопец у адзін момант у яе закахаўся. Неўзабаве дзяўчына прыедзе ў Беласток згуляць вяселле, а пасля заканчэння універсітэта „мой” хлопец выедзе да яе ў Канаду. Дзядзька, у якога няма дзяцей, усё жыццё марыў, каб пляменнік быў бліжэй. Ды і яны лічаць, што ён там зробіць кар'еру.

Усё перад маімі вачыма пайшло кругом. Як гэта? А што з нашым каханнем? Гэта быў для мяне шок. Я зусім страціла псіхічную раўнавагу. Кінула вучобу і выехала ў іншае ваяводства. Знайшла абы-якую працу. Сядзела вечарамі ў нанятым пакойчыку. Нікога не хацела бачыць.

Аднойчы сяброўка запрасіла мяне да сябе. Будзе пару асоб, сказала яна, прыйдзі, чаго ж ты будзеш сядзець адна... Хлопцаў хопіць на ўсіх! Не магу да сёння зразумець, як гэта сталася, што я адразу згадзілася. І гэта быў пачатак майго канца.

Спачатку пілі і елі, пасля танцавалі, а пазней пачалі прымаць наркотыкі, „каб было яшчэ прыемней”. Я спачатку была ашарашана, я ж ніколі нічога такога не каштавала. Але мяне заахвоцілі, што дастаткова толькі глытнуць і: „паглядзіш, як стане добра”. Ну, калі будзе добра, дык чаму не, можа палягчэе на сэрцы. Спадабалася!

Сяброўка цяпер рэгулярна дастаўляе мне „што трэба”, часта робім мы гэта ў яе кампаніі. Я дзіўлюся, што ні яна, ні яе сябры не церпяць наркатычнага голаду так, як я. Ім дастаткова пацешыцца на нейкай прыватцы, пашалеюць крыху, а пасля як бы нічога і не бывала. А я ўжо без гэтага не магу жыць. Калі толькі прыму „лякарства”, дык забываюся пра ўсе свае праблемы і расчараванні і здаецца мне, што ізноў свет прыхільны да мяне. Ужо няма дня, каб я не прыняла наркотык.

Прыехала я да бацькоў, і яны нешта заўважылі. Мама кажа, што ў мяне нездарова блішчаць вочы, што я нейкая момантамі неспакойная, як бы непрысутная. Што рабіць? Доўга не змагу ашукваць бацькоў. Мама настайвае, каб я вярнулася дахаты. Хлопец ужо выехаў, дык не будзе прычыны майго нервовага напружання. А я баюся гэтага, бо і так думаю, што маё жыццё ўжо скончана, і з наркотыкамі я ўжо не змагу парваць. Што ты раіш?

**Бася**

Бася! Думаю, што ў тваёй асобе наркотыкі знайшлі надзвычай падатны грунт. Ты перажывала цяжкія хвіліны, і яны не толькі дапамаглі табе адчуваць сябе „прыемней”, але і неяк жыць. І таму ты так трымаешся за іх. Але можа ўжо хопіць?! Вярніся дахаты, як раяць табе бацькі, і знайдзі сабе новага хлопца. Лепшага! Будзе гэта найцудоўнейшы наркотык!

Калі і хлопец не паможа, хутчэй бяжы да доктара.

**СЭРЦАЙКА**